# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1965

Ліпень-Жнівень

Год XIII

№ 4

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1965 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвертаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIII** **July—August 1965** **Nr. 4 (91)**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE., LONDON, N. 12
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

**Год. XIII** **ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ** **№ 4 (91)**

РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»
ВІНШУЕ

ДАРАГОГА ДАСТОЙНАГА
УЛАДЫКУ ЧЭСЛАВА

З СЛАЎНЫМ СЬВЯТАМ 25 ГОД СЬВЯТАРСТВА 1940 — 16. VI. — 1965

«СЯРЭБРАНЫ ЮБІЛЕЙ»

І З СЬВЯТАМ 5 ГОД ЯПІСКАПСТВА 1960 – 4. VIII. — 1965

МНОГАЕ ЛЕТА!

І ЖАДАЕ ШЧАСЬЛІВАГА ЖЫЦЬЦЯ І ПЛЁННАЕ ПРАЦЫ.

АДНАЧАСНА ШЧЫРА ДЗЯКУЕ ЗА ПОМАЧ І ПРОСІЦЬ БАГАСЛАВЕНСТВА ДЛЯ СУПРАЦОЎНІКАЎ І ЧЫТАЧОЎ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

*Пры гэтым паведамляем, што Юбілейнае Сьвяткаваньне ладзіцца ў Манастыры аа. Марыянаў у Eden Hill, Stockbridbe, Mass., America, у правінцыяльным Доме нашага Закону, якога Дастойны Уладыка зьяўляецца Генэральным Супэрыёрам.*

*28-га жніўня Ўладыка Чэслаў вертаецца ў Эўропу і затрымаецца ў Партугаліі ў Бальсамао, у Доме аа. Марыянаў. Прыяцелі Ўладыкі і вучні Інтэрнату Сьв. Кірылы Тураўскага спадзяюцца і просяць Яго Дастойнасьць не прамінуць Marian House ў Лёндане, каб уладзіць — хоць спозьненае —* Яго юбілейнае сьвяткаваньне!



*Хіратонія Даст. Уладыкі Чэслава, 4. VIII, 1960, у Мюнхэне*

*а. Аляксандар*

# ПАЗНАНЬНЕ БОГА

Мы павінны быць вельмі ўдзячны Сьвятой Царкве за тое, што яна заўсёды бараніла і бароніць людзкі розум ад розных нападкаў і цьвердзіць, што чалавек сваімі сіламі можа дайсьці да пазнаньня Бога, пачатку і мэты ўсяго тварэньня. Ці-ж можа быць большы доказ магутнасьці людзкога розуму, як той факт, што ён сам, без помачы можа прыйсьці да пазнаньня свайго Творца?

Так, вялікая ёсьць годнасьць чалавека. Гаворачы аднак аб ягонай велічы, мы не павінны забывацца, што чалавек, ня гледзячы на ўсё, ёсьць толькі стварэньнем і, як усе стварэньні, істотай агранічанай. Ягоны магутны розум ня ёсьць усемагутны і ягонае пазнаньне Бога, будучы праўдзівым, астаецца заўсёды агранічаным і недасканалым. Усё нашае пазнаньне ў цяперашнім жыцьці мае свой пачатак у змыслах, дзякуючы якім мы маем кантакт з матар'яльным сьветам вакол нас. Толькі пасьля, цераз абстракцыю, мы ўзносімся да пазнаньня вышэйшых рэчаў, якія не падлягаюць змысловым пачуцьцям. Бог, які ёсьць Чыстым Духам, не зьяўляецца прадметам змысловых адчуваньняў. Дзеля гэтага нашыя веды аб Ім ёсьць толькі пасрэдныя. Мы Яго пазнаём падобна таму, як мы пазнаём пісьменьніка, чый твор чытаем. Чытаючы кнігу, мы можам шмат даведацца аб ейным аўтары: аб ягоных мастацкіх здольнасьцях, аб маральнасьці, сьветаглядзе і т. д. Усё гэта ёсьць праўдзівае, але яно ня можа замяніць аднэй хвіліны беспасрэднага кантакту з жывым чалавекам. У падобны спосаб, чытаючы кнігу прыроды, мы можам шмат сказаць аб ейным Аўтары — аб Ягонай бесканечнай магутнасьці, розуме, справядлівасьці, бо «Нявідомае Яго, вечная сіла Яго і Боства ад стварэньня сьвету праз разважаньне аб творах відомым робіцца», як кажа сьв. Павал (Рым. 1, 20). Аднак гэты вобраз, хоць праўдзівы, будзе заўсёды агранічаным і недасканалым. Больш таго: нават калі-б людзкі розум мог-бы ісьці бесканечна наперад у пазнаньні Творца, то ўсё-ж такі Бог для яго аставаўся-б Істотай далёкай, халоднай і адарванай. Ніякі вобраз, нават найбольш дасканалы, ня можа даць нам пачуцьця цяплыні і рэальнасьці, якое нам дае беспасрэдны кантакт. Ужо старажытны філёзаф Арыстотэль, на аснове беззаганнага разважаньня, дайшоў да пазнаньня існаваньня ўсемагутнай Істоты, першага Рухавіка сусьвету. Аднак ягоныя доказы, якія астаюцца важнымі да сяньняшняга дня, не маглі змусіць ані яго, ані ягоных пасьлядоўнікаў любіць гэтую Істоту. Кардынал Ньюман у мінулым стагодзьдзі сказаў, што ён прызнае важнасьць разумовых доказаў існаваньня Бога, аднак яны пакідаюць яго халодным, г. зн. ня выклікаюць у ягоным сэрцы глыбейшых пачуцьцяў.

На шчасьце Бог не пакінуў чалавека самім: Ён сам пачаў шукаць людзей. Стварыўшы чалавека на сваё падабенства і годнага сваей любові, Ён захацеў быць для яго ня толькі Творцом, але і Айцом. Ён шматразова ўваходзіў у беспасрэдны кантакт з людзьмі, гаворачы да іх у аб'яўленьнях і цераз прарокаў. Наканец, каб паказаць усю сваю любоў, Ён сам прыняў чалавечы вобраз: «І Слова сталася целам і пасялілася між намі» (Ян 1, 14). Ісус Хрыстос, Адзінародны Сын Божы і Адвечны Бог, стаўся чалавекам, каб людзі маглі пазнаць Яго і, пазнаўшы, палюбіць і атрымаць вечнае шчасьце. Ён жыў між людзьмі, хадзіў, еў, цешыўся, сумаваў, пацяшаў, навучаў і наканец памёр мучаніцкай сьмерцю за нас. Людзі, якія сьледавалі за Ім, якія бачылі Яго і чулі Ягоныя словы, якія дзялілі з Ім радасьці і сум — гэтыя людзі даведаліся далёка больш аб Богу, чым-бы яны маглі пазнаць сваімі сіламі праз усё сваё жыцьцё. «Мы бачылі славу Ягоную, славу як Адзінароднага ад Айца» — піша адзін з Ягоных найбліжэйшых вучняў (Ян, 1, 14).

Некаторыя з блізкіх вучняў і пасьлядоўнікаў Хрыста пакінулі дакумант з таго часу, калі Ён быў на зямлі. Мы называем яго Сьвятое Евангельле. У гэтай кнізе асоба Ісуса Хрыста выступае так жыва, што засланяе ўсё іншае, не выключаючы саміх аўтараў. Чытаючы сьвятое Евангельле мы разумеем, кім ёсьць Бог для тых, якія пазналі Яго з блізкага сужыцьця з Ім. Больш таго, мы ня можам пазбавіцца ўражаньня, быццам мы самі зьяўляемся беспасрэднымі і сьведкамі падзеяў там апісаных. Такім чынам у пэўнай меры мы можам таксама адчуць і пазнаць тое, што адчувалі сучасьнікі Хрыста, якія йшлі за ім. І калі мы захочам выразіць славамі тое, што мы пазналі аб Богу з гэтага глыбокага дасьведчаньня, дык ня можам зрабіць нічога лепшага, як толькі паўтарыць словы ўлюблёнага вучня Хрыстовага: «Бог ёсьць любоў, і хто трывае ў любові, астаецца ў Богу і Бог у ім» (Ян 4, 16).

*а. Я. Гэрмановіч*

# РЭФАРМАТАР

## (ДЫЯЛЁГ)

РЭДАКЦЫЯ зьмяшчае пачатак кніжкі «РЭФАРМАТАР» і жадае ўключыць Дарагіх Суродзічаў у «дыялёг», які датычыць усіх людзей сьвету — шчасьця ці няшчасьця. Пры гэтым Рэдакцыя просіць высказываць свае думкі, якія могуць быць такжа і друкаваныя ў «Божым Шляхам» і з якіх абавязкава скарыстае сам аўтар кніжкі.

⁕

У гэтай невялікай кніжцы *«Рэфарматар»* — у форме лёгкага дыялёгу — разважаюцца вельмі паважныя справы. Яны датычаць аднак ня толькі Царквы Каталіцкай, але і наагул усіх рэлігіяў і цэркваў, як і ўсяго чалавецтва — менавіта — аб ратунку ад голаду і атамнай бомбы.

Пасьля II-ой Вялікай Вайны сьвет увайшоў у *новую эпоху* і адразу — на парозе яе — ўбачыў, што стаіць перад жудаснай катастрофай, якая ўсьцяж пагражае і нарастае.

Ані ААН, ані розныя канфэрэнцыі не маглі гэтае пагрозы зьменшыць, ні адсунуць.

У 1962 годзе Каталіцкая Царква склікала II-гі Ватыканскі *Сабор*. Аднак ані Сабор, ані сам Папа *Павал VI*, які ўсьцяж высказывае боль свайго сэрца аб няшчасьцях сьвету, не знайшлі дасюль дастатковага лякарства — ратунку.

А іншыя *Цэрквы* і *Рэлігіі* вельмі мала, або і зусім не займаюцца праблемай голаду і вайны.

Дасюль найбольш рашуча і вытрывала выступаў супраць атамнай вайны Язэп *Сталін*, але гэта быў голас *вялікага правакатара*, які сам бяз перапынку множыў і ўзмацняў атамныя бомбы.

Падняў свой голас — у Духу Хрыстовым — папа *Добры Ян XXIII*, але гэты голас заглушыла неспадзяваная сьмерць. І папа Ян склікаў — дзеля справаў Катал. Царквы і справаў лучнасьці Цэркваў, а такжа ратунку сьвету, — Ватыканскі Сабор. Аднак тады яшчэ голад ня выяўляў усей сваёй жудасьці, як бачым цяпер.

⁕

Пытаньне: Як сьвет рэагуе на ўсе пагрозы?

Калі ў 1912 годзе на Атлянтыцкім акіяне параплаў Тытанік вельмі пасьпешна плыў на спатканьне лядзянай гары, а публіка аддавалася вясёлым танцам, музыцы і іншым забавам, дык нельга было іх за гэта вініць, бо ні капітан, ні людзі ня ведалі, што іх чакае...

А цяпер і кіраўнікі дзяржаваў і ўвесь сьвет ведае, што яго чакае, і стрымгалоў ляціць-сьпяшаецца да сваёй катастрофы. Голас папы *Паўла VI-га* зьяўляецца голасам «на пустыні» трох мільярдаў людзей.

А чым займаюцца *прадстаўнікі навукі?*

На няшчасьце *навука ашалела!!!* Замест ратаваць людзей ад голаду, самая высокая навука — матэматыка, хімія, фізыка — занятыя тым, каб на зямлі і пад зямлёю, і пад морам, і ў паветры, і ў між-плянэтным прасторы зьнішчыць усе праявы людзкога жыцьця і наагул усё жывое... Тады ў гэтым, значыць, мусіць загінуць, і ўся слава навукі і ўсе яе дасягненьні і самыя тыя вучоныя з сваімі сем'ямі і ўся цывілізацыя чалавецтва. —

Каму гэта патрэбна, ці карысна, ці прыемна? —

І каму трэба, каб нашая красуня-Зямля, нашая маці-карміліца стала бязлюднай пустыняй, папялішчам і пажарышчам? Каб гарады і вёскі сталі агульным магільнікам? Каб людзі самі сабе прысьпяшылі *канец сьвету?* І каб пайшлі — з усімі грахамі — на *страшны Божы суд?..*

⁕

А мы, як хрысьціяне, верым, што мы выкуплены неацэннай крывёю Госпада Ісуса Хрыста, якую праліў аж да апошняе кроплі — дзеля нашага збаўленьня. Верым, што мы яго дзеці, якім Ён жадае вечнага шчасьця.

Мы ня маем права рызыкаваць сваім дачасным і вечным жыцьцём! І ніякія ўлады гэтага сьвету, і ніякія вучоныя, ні сільныя, ні хітрыя людзі ня маюць права губіць бясрычынна ні аднэй душы, а тымбольш усяго сьвету.

Затое кажны разумны чалавек мае абавязак ратаваць сваіх бліжніх — і тымбольш усё чалавецтва.

Дык вось Каталіцкая Царква — праз сваіх найвышэйшых духоўных прадстаўнікоў-япіскапаў, сабраных на Саборы, можа і павінна падняць аўтарытэтны голас, каб знайсьці абарону ўсяму чалавецтву.

І неабходна, каб прадстаўнікі ўсіх *рэлігіяў* і *цэркваў*, такжа прадстаўнікі *навукі* і *ўрадаў* усяго сьвету — у супольнай нарадзе — шукалі і знайшлі ратунак нашаму сьвету!

Бо кажны сумленны чалавек пасьпяшыць на ратунак няшчаснага чалавека, асабліва-ж малога дзіцяці: нават зарызыкуе сваім жыцьцём, каб памагчы ў няшчасьці другому чалавеку.

⁕

Усім вядома, што на Ватыканскім Саборы — на ўсіх трох Сэсіях — зарысаваліся два кярункі паміж Айцамі Сабору: кірунак так званых прагрэсыўных і кірунак кансэрватыўны.

Дык вось аўтар гэтага «Дыялёгу» дае тут двух прыхільнікаў гэтых кірункаў: *а. Андрэй* — прагрэсысты і *а. Захар* — кансэрватысты. — Яны дыскутуюць 1) аб патрэбе рэформы ў Царкве, 2) аб небасьпецы голаду і атамнай вайны і 3) што Сабор павінен гэтым заняцца — шукаць ратунку.

Пасьля аўтар падае спосаб, як мабілізаваць людзей добрай волі для ратунку сьвету.

УВАГА: У току дыскусіі а. Андрэй выражае думку, што Сабор не павінен разыйсьціся, пакуль ня знойдзе ясных прапазыкаў для ратунку сьвету. Між іншым цьвярдзіць, што IV Сэсія не павінна быць апошняй і што трэба Сабор адлажыць на якія 5 гадоў, каб пасьля ізноў узяцца за далейшыя рэформы.

Далейшы працяг «дыялёгу» аб дыяканах і аб прыслужніцах і дыяканісах мае ўжо меншае значэньне і толькі датычыць каталікоў. Але артыкул аб Цэлібаце Духавенства мае значэньне вельмі важнае: гэта такжа інтэрэсуе і іншыя хрысьціянскія цэрквы.

У артыкуле «Фабрыка Сьмерці і Фабрыка Дзяцей» ўся дыскусія канчаткова зводзіцца да таго, што сьвет мусіць знайсьці ў сабе добрую волю, навука мусіць працаваць на ратунак, а не на згубу сьвету, што ўсе *Цэрквы* мусяць прыйсьці да агульнай згоды ў справах жыцьця чалавецтва; а ўсе ўрады мусяць адрачыся атамнай вайны і ратаваць сьвет ад голаду.*

⁕

*Госпадзе Ісусе Хрысьце,* заступіся за нас перад *Айцом Сваім Нябесным! Духу Сьвяты Божа,* асьвяці розум нашых вучоных і дай сілу добрай волі нашым урадам для працы і згоды на карысьць чалавецтва!

*Сьвятая Дзева Марыя — Маці Хрыстовая* і *Маці людзей* на зямлі — маліся за нас грэшных!

*Усе Сьвятыя* і ўсе *Ангелы,* маліцеся за нас!

АМАН!

# РЭФАРМАТАР

## З нагоды II-га Ватыканскага Сабору

Ад самага пачатку Сабору ў 1962 годзе а. Андрэй глыбока разважаў аб патрэбе шырокіх рэформаў у Царкве. Сягоньня вельмі неспакойны прыйшоў да свайго старшага таварыша а. Захара і гаварыў:

— а. Захар! Я ізноў, як на папярэднія Сэсіі Сабору, так і на гэтую IV-ую, зьбіраюся паслаць праекты рэформаў. Маючы да Вас поўны давер, хацеў-бы парадзіцца ў некатарых сумніўных пытаньнях.

а. ЗАХАР: — Якія праекты рэформаў і каму пасылаеш?

а. АНДРЭЙ: — Але-ж гэта ўсім вядома: кажны чалавек можа — праз свайго япіскапа — пасылаць, на Сабор просьбы, праекты ці пытаньні. А япіскапы аддаюць такі матар'ял у адпаведныя Саборныя Камісіі.

а. ЗАХАР: — А, так-так! Ты ўжо мне аб гэтым гаварыў; цябе ўжо між духавенствам празываюць «рэфарматарам» за паступовыя і сьмелыя праекты. А мой калега, вучоны гісторык, казаў аб табе: «У айца Андрэя характар Саванаролі: каб Андрэй быў Рымскім папам, дык толькі сядзеў-бы над кананічным правам і рабіў-бы фантастычныя папраўкі . . . » Хэ-хэ, хэ-хэ!

Так гаманіў а. Захар. Быў ён філязоф: сухі як трэска, доўгі як бадыль, з казьлінай бародкаю. Сядзеў абложаны кнігамі ў розных мовах: адну чытаў, другую пераглядаў, трэцюю ставіў на месца і прытым нешта гутарыў з сабою. Яго трэ было-б назваць чалавекам глыбокай навукі, бо вечна рабіў доўгія выпіскі і аднатацыі. А ўсё гэтае мела нейкі таёмны сэнс, бо ўжо зарабіў сабе дахтарат філязофіі і кананічнага права, дый яшчэ да нечага шыкаваўся.

а. Захар любіў у размове мэлянхалійна ўсьміхацца, што ўводзіла а. Андрэя ў спакушэньне нецярплівасьці.

* а. ЗАХАР — пэсыміст і флегматык – празваў а. АНДРЭЯ «Нецярплівым Рэфарматарам» за яго гарачы тэмпэрамант, а нават — у жывой дыскусіі — лічыў яго прыхільнікам пратэстанскіх рэформаў. Аднак пакрысе, ня могучы перасіліць моцнай аргумантацыі а. Андрэя, а. Захар пачаў здаваць некатарыя ўлюблёныя пазыцыі, абапёртыя на старой традыцыі.

ВАТЫКАНСКІ II-гі

а. АНДРЭЙ: — На што склікалі гэты Сабор?

а. ЗАХАР: — Як то «на што?» Склікаў яго Ян XXIII, каб правесьці р э ф о р м ы Царквы. І вось тут сабраўся цьвет і росквіт Каталіцкае Царквы — яе навукі, поступу і сьвятасьці . . .

а. АНДРЭЙ: — Гэта праўда! Але ёсьць і іншая старана. Як я разглядзеўся між гэтым народам — тут духавенства і манаства, карэспандэнты і турысты, пілігрымы і бізнэсмэны; а такжа ў гэтым — каталікі і пратэстанты і атэісты. Тут у мініятуры ўвесь сьвет! Усе колеры людзей рознага стану, навукі, веку і пазыцыі . . .

— І апінія аб Саборы ў гэтым зборышчы вельмі разнаякая: адны кажуць,
што Сабор зусім непатрэбны — страта часу, нэрваў і грошаў;
што мала прыгатаваны і карысьці ня відаць;
што ўсёроўна папа сам усё пасьля перайначыць . . .

Другія — насупраць кажуць,
што Сабор працуе пасьпяхова і карысна;
што праводзяцца радыкальныя рэформы;
што заважыць на лёсах усяго сьвету — пакажа ратунак ад голаду і вайны;
што папа працаваць ня мешае і з пастановамі будзе лічыцца . . .

— А пратэстанты крытыкуюць,
што Катал. Царква хацела пахваліцца перад сьветам сваёй красой, сілай і сьвятасьцяй, — як і красой і веліччу свайго будынку-царквы, але паказала сваю адсталасьць і масу мінусаў . . .

— А самі каталікі, хоць саромляцца, прызнаюцца да сваіх грахоў гістарычных і цяперашніх.

— А манашкі ў Рыме, бачучы ў базыліцы Сьв. Пятра абразы і фігуры, кажуць, што «дзе глянеш, дык зараз трэба спавядацца . . . »

— А вы, а. Захар, сказалі, што Сабор скліканы дзеля *р э ф о р м ы*. Я перакананы, што кажны сьвятар, а нат кажны каталік павінен прылажыцца да рэформы Царквы і стаць рэфарматарам . . .

а. ЗАХАР: — Ну, гэта ты зашмат сказаў! Гэта мне напамінае пратэстанскую рэфармацыю, а мне і слова «рэфарматар» не падабаецца. Ці-ж мала каталікі нацярпеліся ад рэфарматараў?

— У нас на кіравецтва пастаўлены япіскапы «пасьвіць стада», а нам трэба толькі «слухаць»: ня могуць-жа авечкі пасьвіць самых пастыраў!.. Зрэшты Саборы Трыдэнтскі і Ватыканскі І-ы праводзілі рэформы на сотні гадоў. Значыць, няма чаго нэрвавацца! Пачакай, браток, 3-4 соткі гадоў і тады выжджай з сваімі звонкімі рэформамі . . .

(Пякучыя словы а. Захара, як войстрыя стрэлы, закранулі а. Андрэя за самае сэрца, але ён не паказаў віду: адказаў моцна і станоўка, аднак зусім спакойна).

а. АНДРЭЙ: — Кажны чалавек, як упрэцца і натужыцца, можа знайсьці дзесятак аргумантаў супраць справы самай відавочнай.

— Аднак ёсьць рэформы абсалютна неабходныя, ад якіх залежыць цэласьць, напрыклад, дому ці гаспадаркі, і ёсьць рэформы штодзённыя, якія прыносяць парадак, чыстату і прыгожасьць.

— Вось-жа і мы, малыя людзі, можам і павінны цікавіцца і супрацоўнічаць у справах Царквы.

— Вы сказалі, што II-га Ватыканскага Сабору хопіць на 3-4 стагодзьдзі. Аніяк не магу з Вамі згадзіцца! Па майму рэформаў Сабору хопіць можа на 3-4 гады, бо час ляціць і ўсё мяняецца . . .

а. ЗАХАР: — Як так? Ну-ну, кажы далей, я слухаю . . .

а. АНДРЭЙ: — Бачыце, якая вялікая розьніца між намі?! Але я прашу Вас зразумець, што мы жывём *на парозе* абсалютна н о в а е э п о х і.

а. ЗАХАР: — Што ты хочаш гэтым сказаць?

а. АНДРЭЙ: — А вось што:

СТАРЫ СЬВЕТ ПАМІРАЕ,
НОВЫ СЬВЕТ РОДЗІЦЦА,
але
АТАМНАЯ БОМБА ХОЧА ЗАГУБІЦЬ ЯГО!

— Нашае *э п о х і* нельга да нічога ў гісторыі параўнаць — хіба да *стварэньня сьвету* і да *прыходу Хрыста* на зямлю.

— Усе іншыя падзеі і катастрофы, нават *сусьветны патоп*, проста малеюць у параўнаньні з атамнай б о м б а й, якая можа выклікаць гвалтоўны *канец жыцьця* на зямлі.

— Дык цяпер ясна, што мы сталі на пачатку новага жыцьця: гэта ёсьць нябывалае разьвіцьцё ў самым кароткім часе . . .

1) ЭПОХА — навукі і тэхнікі (ракетаў, палёту на месяц, радыё, тэлевізіі),
2) „ — атамнай энергіі і б о м б ы,
3) „ — арганізацыі вольных народаў і дзяржаваў,
4) „ — размнажэньня людзей і страшэннага г о л а д у. —

— Значыць, або — *Паварот да Хрыста,*
або — атэізм і бязбожнасьць,
або — *вайна, голад і съмерць,*
або — *згода, брацтва* народаў і ратунак ад *голаду*...

— З усяго, што бачым, мы можам уявіць, якой вагі переживаем новую эпоху! А мы ня ведаем, як далёка пойдзе нябывалы поступ у ва ўсіх галінах — да шчасьця ці да згубы?

а. ЗАХАР: — Я не пярэчу такога нязвычайнага поступу. І вось шчасьліва сталася, што ў такім важным мамэнце быў скліканы Ватыканскі Сабор і што заняўся так пільна новымі зьявамі, дык мы можам сьмела ўступіць у новую эпоху.

а. АНДРЭЙ: — Ня ведаю, скуль у Вас такая сьмеласьць?...

— Аднак пазвольце — я скончу! — Кажны бачыць, што агульны (надта) радасны, але і дужа небасьпечны поступ усьцяж нарастае.

— Царква ня мае права да ўсяго бязудзельна прыглядацца — дзівіцца, ці горшыцца (як было за часоў Капэрніка і Галілея), але павінна — адпаведна да сваёй Божае місіі — супрацоўнічаць з поступам: даваць добрыя рады, асьцерагаць перад небасьпекай, корыгаваць памылкі, а дзе патрэба — браць кіравецтва ў рукі, каб — праз уладжанае жыцьцё весьці чалавецтва да Бога.

— Ад часоў Яна XXIII ўвесь сьвет уважліва ўнікае ў голас нашае Царквы і будзе дамагацца яе інтэрвэнцыі ў пэрыядзе атамнай трывогі.

— Калі ў апошнім часе Царква так шыбка разрастаецца, дык і рэформы ў Царкве мусяць бегчы раўналегла. Так як кажны чалавек мяняе адзежу адпаведна да ўзросту, да тэмпэратуры, абычаю і моды.

— Ян XXIII адразу пачаў рэформы ад папскага цэрэмоніялу і ад старасьвецкіх звычаяў. Дамагаўся ад акружэньня прастаты, пакасаваў шумныя тытулы — аж заслужыў на тытул «Добрага Папы Яна».

— За сваю дзейнасьць папа Ян пэўна будзе прызнаны сьвятым і Дохтарам Царквы.

а. ЗАХАР: — Ну, добра! Дык што-ж ты думаеш аб рэформах у Царкве?

а. АНДРЭЙ: — Найперш, я думаю, што Ватыканскі Сабор не павінен на IV Сэсіі абарвацца: мне здаецца, што найлепш было-б адлажыць урачыстае заканчэньне Сабору на пяць гадоў. Няхай пастаўленыя рэформы ўваходзяць у жыцьцё і мы ўбачым ці яны будуць практычнымі? Некаторыя з іх ужо за пару гадоў застарэюць.

— І трэба патроіць лік кардыналаў — адпаведна да ліку каталікоў. А з кардыналаў стварыць поўны *сэнат,* прытым бяз ніякіх нацыянальных прывілеяў.

— І яшчэ... зрэшты, аб гэтым скажу пасьля.

— А цяпер скажыце Вы, а. Захар, ці Вы згодны са мною аб патрэбе бязупыннай рэформы ў Царкве? Так, ці Не?

а. ЗАХАР: — 1) Мушу сказаць сваё «Так!» — Але-ж такая рэформа ў Царкве заўсёды вялася. А ўжо Ян XXIII проста здваіўся ў рэформах, хоць ня быў і 5-ці гадоў.

— Але скажу і сваё «Не!», бо-ж ня кажны можа быць рэфарматарам. Як і ў тэхніцы: Не кажную машыну трэ штодзённа разьбіраць і чысьціць, калі яна працуе нармальна. Была-б страта часу і псаваньне машынэрыі: а тымгорш, каб за гэта браўся няздатны працаўнік.

— І ня можа кажны жаўнер даходзіць да генэрала з «добрымі радамі»: жаўнеры маюць сваіх найбліжэйшых начальнікаў. Ці-ж ня так было на вайне?

а. АНДРЭЙ: — Праўда, так павінна быць на вайне. Аднак кажны жаўнер павінен браць да розуму і сэрца інтарэсы ўсяе арміі і дзяржавы. Значыць, можа здарыцца, што ўвагі простага жаўнера паступова дойдуць да ведама Галоўнага Камандуючага: так адзін найменшы чалавек можа заважыць на лёсе вялікае дзяржавы, ці нават усяго чалавецтва.

а. ЗАХАР: — Ну, на гэты раз досыць! Спаткаемся другі раз, бо ўсё трэба глыбей абдумаць...

а. АНДРЭЙ: — Вельмі дзякую! Я тымчасам прышлю Вам копію маіх праектаў на IV-ую Сэсію: я іх даручаю япіскапу Абрагаму, які зьбіраецца паехаць у Рым.

а. ЗАХАР: — Цікава... добра! Прашу прыслаць мне копію.

## ДУМКІ АБ РЭФОРМАХ

Ідучы дамоў, а. Андрэй пачуваўся змучаным, бо перамога ня прыйшла яму так лёгка, як спадзяваўся. Быў аднак задаволены і думаў у голас: «Дзякуй Богу! ўсё-ж упарты філязоф захістаўся».

А а. Захар не спадзяваўся, што так трудна будзе дыспутаваць з «нецярплівым рэфарматарам»... Зара засеў і ўцягнуў усю дыскусію ў навуковыя аднатацыі.

— Так, новая эпоха патрабуе новых аргумантаў, — марматаў а. Захар..

Захар адчыніў вакно, каб зачэрпнуць сьвежага паветра. А на дварэ красавалася

маладое лета ў пачатку чэрвеня: з саду ціснуліся дрэвы ў самае вакно. Сад ужо, праўда, перацьвіў, але лісьцё было такое яшчэ далікатнае, мягкае, што давала проста адураючую духмянасьць.

З суседняга двара даходзілі выкрыкі і свавольства маленькіх дзетак. Захару здавалася, што ўся прырода сяньня цешыцца радасьцяй лета. І ўспомніліся яму словы Бібліі: «І вывела зямля зелень, траву . . . і дрэва, што прыносіць плод . . . І ўбачыў Бог, што ўсё гэта было добрае» (Кн. Быцьця І, 12).

І паплылі ў яго фантазіі абразы сучаснага жыцьця: вось нядаўна чытаў у «Фігаро», як мільярдэр X мабілізаваў сваіх банкіраў і паставіў ім ультыматум — закругліць у гэтым годзе трынадцаты мільярд даляраў!

І прыпомніў апісаньне стамляючай працы вучоных, як канчалі студыі над кабальтавай бомбай, што мела быць мацнейшая ад сумы ўсіх бомбаў вялікае вайны: гэтая можа зьнішчыць жыцьцё на дзесяткі гадоў . . .

І нарэшце ўспомніўся малюнак — дзіцячы, але вельмі сьмешны, — як у пустыні страўс зграбае нагой, (нязграбнымі, вялізнымі пальцамі) кучу пяску, каб глыбей схаваць галаву перад небясьпекай . . .

І зазьвінелі зноў у вушах Захара словы а. Андрэя: «Вайна і сьмерць усяго чалавецтва!»

а. Захар хадзіў па сваім пакоі і паўтараў: «Божа мой! Што-ж паможа таму амэрыканскаму багачу, ці нямецкаму вучонаму іхняя праца, стараньня і пляны, калі прыйдзе катастрофа? Якраз паможа гэтулькі як і таму прадбачліваму страўсу . . . »

Але тут яго вочы палі на расчыненыя кнігі і аднатацыі і . . . Захар затросься, пытаючы сябе самога: «А што паможа мне, калі дабуду трэйці дахтарат з філязофіі гісторыі, на які я ўкладаю гэтулькі намаганьня?»

«Сяджу днямі-начамі: вось працёрлася покрыва на крэсьле, студыюю кнігі італьянскія, нямецкія, францускія, а Хрыстос казаў: — Ідзіце, навучыце ўсе народы . . . — І якраз з гэтага трэ будзе даваць рахунак на Божым Судзе, а не з дахтаратаў . . . »

Тут а. Захар рашуча зложыў кнігі і паставіў іх на полкі, нататкі паклаў у шуфляду, а сам, узяўшы палачку, пайшоў на далёкі шпацыр, на які не хадзіў ужо пару тыдняў.

«Рэформы трэба пачынаць ад самога сябе!» — думаў на пагулянцы а. Захар.

## НАСЕЛЬНІЦТВА СЬВЕТУ І ГОЛАД

а. АНДРЭЙ: — Я не пасьпеў закрануць той раз, што на парозе новае эпохі, апрача ганебнае бомбы, стаіць жудасны прывід — с ь м е р ц ь  а д  г о л а д у !

— Падчас Эўхарыстычнага Кангрэсу ў Бамбэі (2-5, XII, 1964), папа Павал VI меў аказію пераканацца — на свае вочы — аб праблеме голаду ў Індыі. Ад таго часу папа ўсьцяж напамінае ўсяму сьвету аб патрэбе ратаваць галодных.

— Апрача Індыі ёсьць ужо нямала галодных людзей на зямлі. І ня дзеля таго, што зямля ня родзіць хлеба, а дзеля людзкой недбайнасьці, або эксплёатацыі адных другімі. А два найбольш людныя і галодныя краі сьвету — Індыя і Кітай — яшчэ да таго зброяцца адзін на другога дзеля ласкута зямлі ў Гімаляйскіх горах.

а. ЗАХАР: — Якая ўсё-ж галоўная прычына голаду на сьвеце?

а. АНДРЭЙ: — Галоўная прычына, я ўважаю, ёсьць перанаселеньне. І якраз людзі множацца найбольш там, дзе і так цесна і галодна, асабліва ў мала-індустрыяльных краінах. Апрача таго існуе штучны голад, дзе сама дзяржава сваіх грамадзян заганяе ў голад, як было ў Сав. Союзе пры Сталіне і ў Кітаі.

а. ЗАХАР: — Як-жа ратаваць народ? Трэба неяк арганізаваць помач. Але і багатая Амэрыка ня будзе вечна карміць галодныя краі, якія не апрацоўваюць сваёй зямлі, а выцягваюць рукі да хлеба. Дый ніхто ня хоча дарма на другіх працаваць: яшчэ каб памагчы аднаразова, то й знайшліся-б добрыя людзі; але стала давозіць хлеб і раздаваць людзям маластранным, ці малаздольным . . . або сварлівым . . .

а. АНДРЭЙ: — І яшчэ праблема: некаторыя краі стараюцца і працуюць, але народ размнажаецца шыбчэй, чым сродкі ўтрыманьня. Дык такія краі, а нат і ўвесь сьвет стаіць перад «дзюравым карытам»: колькі ні налівай, яно будзе пустое, бо ўсё дзюра пашыраецца . . .

— Вось-жа голад ёсьць бадай горшай пагрозай як атамная бомба! Бомба прынамсі адразу замучыць людзей; а  г о л а д  будзе мучыць павольна — аж людзі пачнуць грызьці адны другіх! . . . Хто сам ня быў галодным, той не разумее: мне Бог пазволіў прайсьці змоладу праз вялікі недастатак, сіратою. А турма і лягеры Сібіру таксама былі добрай школай.

— Павінен Ватыканскі Сабор заняцца праблемай голаду.

а. ЗАХАР: — Трэба было-б Сьвятым Айцом назначыць перш сухі пост (хлеб-вада-соль і пару цыбуляк), тады ахватней браліся-б за ратунак сьвету. Ато ўжо лішне расплываюцца ад сала!

а. АНДРЭЙ: — Праўду кажаце! Камісія, якая разважае справу разросту людзей і справу, так званай, «пігулкі», яшчэ ня выдала сваёй пастановы ў Ватыкане. І я ня сьмею мяшацца, каб узьдзеіць на прысуд больш прыхільны для беднага народу.

— Бо працэнты харчаваньня ўкладаюцца больш-менш гэтак:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 30%: | 15% | жывяцца | звыш нормы, |
| | 15% | „ | нармальна, |
| 20% | | „ | ніжэй нормы — посьцяць, |
| 50%: | 40% | „ | надаедаюць, |
| | 10% | „ | галодныя . . . |

— Значыць, або гэтыя 50% мусяць самі паправіць свой заработак і самі карміцца
або першыя 30% мусяць іх карміць;
або 50% найбяднейшых мусіць гінуць, бо самі зарабіць ня ўмеюць
або ім прыдзецца падняць бунт і адабраць хлеб ад багачоў.

Але тады ўжо ўвесь сьвет — у агульнай камуне — будзе г а л о д н ы . — Ды яшчэ палажэньне пагаршаецца, замест папраўляцца.

а. ЗАХАР: — Тут няма што таіць: сьвет — пры такой высокай навуцы — з атамнай энэргіяй можа лёгка знайсьці галодным харчаваньне. Аднак гэты наш вучоны сьвет і наш ц а р к о ў н ы сьвет дапусьцілі да таго, што атамная энэргія абярнулася на затрату народу — замест на ратунак — і людзям (навінным дзецям) трэба мучыцца гадамі, каб памерці ад голаду!

а. АНДРЭЙ: — Няхай-жа Сабор ня сьмее разыйсьціся, пакуль ня прыступіць да ратунку! А мы ўсе — хрысьціяне, магамэтане, жыды і пагане — мусім пры стале захаваць меру. Калі хто есьць звыш меры, або напіваецца, дык ён — злодзей і рабойнік у бедным сьвеце.

— І няхай вучоныя — матэматыкі, фізыкі, прыродаведы, аграномы, хімікі — прыложаць усю веду і сілу розуму і волі, каб знайсьць спосабы ратунку!

— І ня думай ты, чалавек сыты і багаты, што твае дзеці будуць шчасьлівыя, бо — пры цяперашнім парадку — і яны могуць згінуць ад голаду!

а. ЗАХАР: — Немагчыма, каб людзі — пры помачы Божай — не знайшлі ратунку.

а. АНДРЭЙ: — Разумныя людзі не павінны сьлепа таўчыся ў прорву пагібелі. А м э д ы ц ы н а павінна ўзгодніць свой голас з голасам Царквы.

— Падчас п а ж а р у людзі застасоўваюць самыя моцныя сродкі: разбураюць цэлыя дамы, выганяюць стуль людзей, бо маюць на гэта натуральнае права — затрымаць далейшую катастрофу.

— А тут справа датычыць жыцьця цяперашніх і прышлых мільярдаў людзей. Дык Сьвяты Айцец і Айцы С а б о р у, на якіх паглядае ўвесь сьвет, мусяць перад Богам і людзьмі шукаць і знайсьці сродкі неабходнага ратунку.

— А Вы, дарагі Айцец, што параіце?

а. ЗАХАР: — На вялікі жаль, я магу толькі пацьвердзіць твае словы. Сам Хрыстос, калі ня было ніякай магчымасьці ратунку, накарміў некалькімі хлябамі вялікую таўпу, але перш гаварыў Апосталам: «Дайце вы ім есьці!» — Дзеля таго, што япіскапы зьяўляюцца наступнікамі Апосталаў, дык і цяпер гэтыя Хрыстовыя словы тасуюцца да япіскапаў: «Дайце галодным есьці!» — Значыць, вядзіце такую палітыку, каб людзі мелі што ёсьці: агранічывайце свае расходы, ўмейце самі пасьціць, ня будуйце ў такім страшэнным часе багатых сьвятыняў, аддайце лішнія землі беднаму грамадзтву . . .

а. АНДРЭЙ: — О, я трапляў у хвалі кітайскага натоўпу! У Харбіне, у Пэкіне, у Шангаі . . . А гэты «Вялікі Акіян» народу штогод пашыраецца і паглыбляецца. А што будзе, калі такі цярплівы і працавіты народ падчас буры рэвалюцыі разбушуецца — з голаду? Хто знойдзе ім працу і заработак, каб накарміць галодных, адзець голых і даць прытулак бяздомным? . .

— Аднак ня будзем паддавацца роспачы! Трэба нам увайсьці ў новую эпоху адважна і з магутнай энэргіяй. І ў найтруднейшых хвілінах жыцьця, калі звычайныя малітвы і ахвяры ня дзеюць, калі неба — здаецца — глухое, тады трэба здабыцца на гэройскія ахвяры. Так гаварыў Гасподзь: «Нябеснае Валадарства гвалт церпіць і гвалтоўнікі здабываюць яго».

— Так пасьвячаў сябе і цярпеў за братоў сьвяты Апостал Павал: « . . . шмат у працы, бязьмерна ў ранах, балей у вастрогах і многа разоў пры сьмерці. У Юдэяў пяць разоў дастаў па сорак (без аднаго) ўдараў: тройчы мяне білі кіямі, аднойчы каменявалі; тры разы разьбіваўся карабель, ноч і дзень прабыў у глыбіні . . . у працы, у зьнемажэньні, часта ня сплючы, ў голадзе і смазе, часта ў пастох і нагаце». (Кар. II, 11, 23-27).

— Так працавалі Апосталы і памерлі вяліка-мучанікамі, а што зрабілі мы?

— Дык, пасьля глыбокай развагі, я хачу выявіць Вам свой плян ратунку, які Бог мне ўкладае ў розум і сэрца: спадзяюся, што Бог ласкава прыйме маю ахвяру. — Але аб гэтым пагамонім пасьля. А тымчасам памагайце мне сьвятымі малітвамі! —

— Дзякую і аставайцеся з Богам!

а. ЗАХАР: — Ідзіце з Богам!

*(Далей будзе)*

*а. Я. Гэрмановіч*

# Мае прыяцелі — Аляксандар Міхайло (Мікайле)

Мушу зрабіць нашым Чытачом неспадзяванку: гэты раз пішу не аб беларусе, але аб летувісе. Прычына такая: Гэты сьвятар працаваў доўгі час у беларускіх парахвіях, добра разумеў і адносіўся з сымпатыяй да беларускага адраджэньня. І ў гэтай гісторыі мы ўбачым нямала палітычных і рэлігійных труднасьцяў нашага грамадзтва.

*

Найперш ужо самая фамілія «Міхайло» сьведчыць аб тым, што яе калісьці «падрабілі» . . . «Мікайле» было перафасавана на Міхайло — напэўна так было ўпісана падчас хросту ў мэтрыку.

Ведама, што расейскія і польскія ўлады падцягвалі беларускія і летувіскія фаміліі пад свой фасон.

Мікайле быў чалавек талковы, разважлівы, справядлівы і вельмі мягкі і добры. Ён быў у гадох 1927—35 пробашчам на беларускай парахвіі Слабодка, Браслаўскага павету, значыць, нашым суседам, бо тады ў Друі мы таксама мелі парахвію.

Нам здаралася часта спатыкацца: ў яго, у нас і ў суседзтве. Пасьля майго выезду ў Манджурыю (1932) Мікайле быў пераведзены ў парахвію Камаі, Сьвянцянскага павету, таксама беларускую. Калі я, вярнуўшыся з Манджурыі, быў у Вільні, тады мне ізноў прышлося зь ім спаткацца і перажываць зь ім яго надта цяжкую трагэдыю (аб гэтым будзе далей).

І вось гэты Божы чалавек — пры ўсіх сваіх сымпатычных рысах характару — мусеў працаваць на рэлігійным полі — над людзкімі душамі — заганна і несправядліва . . .

Чаму і як гэта сталася?

Ён быў летувіскі патрыёт і быў перакананы, што беларусы — гэта даўнейшыя летувісы і жывуць на старой летувіскай зямлі, значыць, іх трэба вярнуць да летувіскай мовы. Дый Браслаўскі павет да першае вайны належаў да Ковенскае губэрніі.

Аднак Міхайле, як чалавек талковы, бачыў, што ўжо немагчыма нашых людзей «адбеларушчыць» і даў гэтаму спакой, хоць ягонае сэрца балела.

Але затое сталася штосьці яшчэ больш дзівоснае! Польская ўлада і ўлада касьцельная прымусілі яго ўважаць гэтых беларусаў за . . . палякаў, бо яны былі каталікі: значыць, летувіс мусіў на «літоўскай» зямлі беларусаў польшчыць.

Такія дзівацтвы былі-б добрыя толькі для камэдыі ці байкі, але гэта нядаўняя праўда, якой мы былі і сьведкамі і памочнікамі. Гэтая карыкатура духоўнае працы ў Беларусі трывала вякамі, бо і расейскі царызм лічыў беларусаў-каталікоў палякамі.

Дзеля таго, што Мікайле — чалавек разумны і справядлівы — на бачыў ніякага выйсьця з вар'яцкіх адносінаў і з сьляпой сытуацыі, дык гэта даламала яго, як убачым далей, і так слабую нэрвова істоту.

Далей пяройдзем да фактаў, якія пакажуць трагічны вынік зграмаджаных выпадкаў.

*

Вільня. Вясной 1937 г. аднойчы прыходзіць да мяне а. Ал. Мікайле. Бачу ён страшэнна ўзрушаны нейкім здарэньнем.

— Што сталася?

— . . . няшчасьце з сястрою! . .

Я калісьці бачыў яго сястру ў Слабодцы. Яна тады мела скончаную ў Вільні літоўскую гімназію (першай вучаніцай!).

Пасьля студыявала і скончыла ў Вільні на польскім унівэрсытэце мэдыцыну. Вучылася вельмі добра. Яе назначылі на становішча лекаркі ў гарадзкім шпіталі ў Граеве. Аднак яна пачувала дэфэкты ў лекарскіх студыях і жадала давучыцца за граніцай, дык прасіла брата памагчы ёй яшчэ. Ал. Мікайле згадзіўся і выслаў яе ў Вену, у Аўстрыю. Але па двух гадох навукі мусіў яе забраць: яна была хворай . . . псыхічна. Памясьціў яе ў Вільні на Антаколі ў шпіталі для псыхікаў.

У маі 1937 г. дахтары парадзілі забраць сястру на вёску, бо — казалі — «яна даволі папravілася».

Завёз яе брат у Камаі. Там мелі вялікі сад, а мястэчка ля возера — вельмі прыгожае і ажыўлянае ўзгоркамі і дрэвамі. Недалёка ад Камаяў — вялікія лясы. Пагода тады была цудоўная: усё расло, цьвіло і красавалася. Здавалася, што лепшага месца для хворага чалавека нельга і знайсьці. Аж той-жа самае ночы, бо прыехалі позным вечарам з Вільні, сястра над раніцай выскачыла праз вакно і на самай прыгажэйшай цьвітучай грушы павесілася!

Дык вось пасьля тэй трагэдыі Мікайле прыехаў у Вільню і зайшоў да мяне; яго скіравалі прыяцелі паехаць на месяц адпачынку — на курорт у Трускавец у Галічыне.

Пасьля месяца ён вяртаючыся з Трускаўца ў Камаі, запрасіў мяне да сябе на колькі тыдняў. Добра! У канцы чэрвеня я і паехў у Камаі.

Там усё ішло памысна і прыемна, каб ні адно . . . я заўважыў, што сам Мікайле патроху западае ў псыхіцы. Я вельмі спужаўся і ня ведаў, як рэагаваць, а ня меў з кім парадзіцца, бо сам быў гасьцём. А хвароба была спачатку няясна і ведамая аднаму мне. Калі-ж я прабаваў каму сказаць, дык тыя асобы паглядалі на мяне з сумнівам, ці часамі няма чаго са мною?

Аднак хвароба ўсе пагоршывалася і трэба было дзеіць. На шчасьце хворы давяраў аднаму мне і я ўгаварыў яго ехаць у Вільню да знаёмага яму дохтара летувіса Альсэйкі. Мы паехалі ў мястэчка Ганушышкі (18 км.), каб там сесьці на чугунку. Быў канец ліпня 1937 г. — Нам трэ было ў Ганушышках начаваць, а ў пробашча былі госьці, суседзі сьвятары, маладыя людзі — ўсе летувісы — прыяцелі Мікайле, а мне незнаёмыя. Усе яны вельмі ласкава і прыязна аднесьліся да майго пацыента, пацяшалі яго, шмат і галасна сьмяяліся і жартавалі: настрой у іх быў прыпаднята, бо і пагода была цудоўная і яны былі па добрым абедзе.

Я прабаваў пад сакрэтам сказаць гаспадару аб хваробе Мікайле і прасіў, каб не садзілі яго да карцёжнага стала: таксама выясьніў, што вязу яго да дохтара Альсэйкі. Але, куды там?! Гаспадар сакрэт выдаў, на мяне глядзелі коса, бо М. не паказваў знакаў хваробы, а я быў ім чужы, а яны спадзяваліся ажывіць хворага . . .

Я быў, так сказаць, адапхнёны ад вясёлай кампаніі і было ясна, што сумляваліся ў маёй псыхіцы. Нічога не парадзіш. Я пайшоў на двор і пачаў прахаджваць ля касьцёла. Было мне вельмі прыкра, але думаў: «Няхай-жа хоць хвораму выйдзе на здароўе!»

Так не прайшло й паўгадзіны, як прыбег да мяне пасланец: «Скарэй — скарэй! Клічуць у пакоі».

Прыходжу і бачу: усе стаяць ля сьценаў, воддаль ад стала. Хворы чырвоны — аж дрыжыць, а госьці і гаспадар таксама чырвоныя і напужаныя — відаць — пасьля нейкага інцыдэнту! Што там у іх было, я і не даведаўся, узяў хворага пад руку і кажу: «Алесь! Супакойся: ўсё будзе добра. Пойдзем! А Бог зь імі . . .»

Мы выйшлі і доўга паволі хадзілі ля касьцёла. Алесь супакоіўся зусім. Мы зь ім ціханька павячэралі і пайшлі спаць. Праўда, мой сон ня быў спакойны: я ўсьцяж будзіўся і наглядаў хворага, але ён спаў даволі спакойна.

⁎

Тыя сьвятары-летувісы ўсе былі на парахвіях «мяшаных» — урадова на літоўска-польскіх, але фактычна на беларускіх, з большым ці меншым працэнтам летувісаў. Сьвятары ані зналі, ані цікавіліся беларускай мовай: была яна ім сьмешнай і ані важнай, ані патрэбнай, дык у такіх бесталковых абставінах тварылі яны павярхоўна-духоўную працу, насаджваючы польскасьць між беларусамі.

У Камаях я зь дзівам бачыў на магільніку (за ровам, на несьвячанай зямлі) помнік з украінскім надпісам па маладой дзяўчыне, што была вучыцелькай у беларускай вёсцы — у польскай школе — і скончыла жыцьцё самагубствам. Казалі мне, што зь вялікай нуды...

Так, значыць, у тых вар'яцкіх абставінах і ўкраінцы мусілі палячыць беларускіх дзяцей! (А ці цяпер лепш, калі і свае і чужыя вядуць, як за цара, у Беларусі «Обрусеніе»?).

⁎

Едзем, значыць, у Вільню. Раптам у вагоне хворы схапіўся ўцякаць! Я ледзь пасьпеў схапіць яго, але ён за мяне дужэйшы, дык я мусіў выдаць сакрэт перад публікай у вагоне — крыкнуў: — «Людзі, памажыце! вязу хворага да дохтара». Памаглі мне і мы хворага абсадзілі.

У Вільні я адразу ўзяў таксі і павёз яго на Антаколь, у тойсамы шпіталь, дзе ён памяшчаў сястру. — Якраз выпала нядзеля і быў толькі адзін дыжурны дохтар. Пытае, чаго мы хочам? Кажу: «Прывёз хворага да вас у шпіталь». А дохтар глядзіць на мяне пільна і маўчыць, дык я ўлёт зразумеў, што ён сумляваецца, каторы з нас хворы, бо да-

сюль сам Мікайле прывозіў да іх сястру і часта наведываў яе. Дык кажу дохтару: — Усёж-тыкі ён хворы, а я здаровы! — Дохтар пытае: — А маеце скіраваньне ад якога лекара?

— Ой, не! — кажу — ён у дарозе хацеў уцякаць, дык я адразу прывёз сюды. — Кажу: — Калі трэба, прыклічце другога дохтара на мой кошт як экспэрта і ўстанавіце дыягнозу.

Так і было: пагаманілі з хворым і згадзіліся прыняць. Вось мы афармляем хворага ў канцылярыі, а тады дахтары кажуць: — Ну, што-ж? Пойдзем! — Толькі выходзім з канцылярыі ў працэсіі — дохтар адзін, другі, за імі сястра, пасьля я, а на самым канцы хворы . . . Аж ён — трах! за намі дзьверы і прыціскае іх плячом, астаўшыся ў канцылярыі! Толькі-ж я меў прытомнасьць на гатове і ў апошні момант усадзіў нагу ў дзьверы, дык Алесь разам цісьне і маю нагу . . . Я кажу спакойна: «Алесь, што робіш? Пусьці мяне!» Ён патрымаў яшчэ, але пусьціў і мы ўжо ўсе націснулі дзьверы і ўвайшлі назад.

Можаце сабе ўявіць, як было стыдна дахтаром, што так неразважна пакінулі хворага на канцы працэсіі?! А мне быў рэванш, што ўжо я мог лічыцца зусім прытомным. Дый магла быць большая бяда, бо хворы мог засунуць магутную засову з сярэдзіны, а вокны былі моцна закратаваныя . . .

*

Па трох месяцах Алесь крыху паправіўся і ўзяў яго пад апеку адзін сьвятар, ягоны калега, на парахвію недалёка ад Вільні. Тут парахвія была беларуская, але сьвятар быў паляк і гэты ўжо мог сьмела і рашуча кіраваць беларусаў у польскі бок, думаючы, што «робіць прыслугу Богу». Трэба-ж ведаць, што ў Вільню наяжджала маса кандыдатаў з Польшчы ў духоўную сэмінарыю: іх пасьля ўлада пасылала на беларускія парахвіі, каб праз школы і касьцёлы праводзілі «місыйную» працу між нашым народам. Яны зусім ня ведалі беларускае мовы і стараліся яе абрыдзіць народу. Такая духоўная палітыка паказвае, што яны нейкім спосабам уважалі, што робяць хрысьціянскую работу, а нашых беларускіх сьвятароў празывалі «камуністымі» і шкоднікамі Царквы. Як іх Бог будзе судзіць, трудна сказаць: толькі-ж яны аддавалі, «Што цэзарава — цэзару, а што Божае . . .» каму?

Але яшчэ не канец! Зноў, пасьля 3-4 месяцаў хворага Алеся прывезьлі з вёскі да мяне. Вялікім гаспадарскім возам везьлі два гаспадары: яны абодвы і так-жа хворы былі чырвоныя і вельмі змучаныя, спацеўшыя. Відаць, што ў дарозе ў іх было моцнае змаганьне, а прытым сяляне абодвы бязьмерна спужаныя: яны аддалі мне хворага, а самі — без папасу — адразу завярнулі каня і шыбка пагналі дамоў! Я не пасьпеў іх нават распытацца, а ад сьвятара ня было нат ніякага пісьма . . .

Што-ж? Зара я заклікаў таксі і хворага зноў аддаў у шпіталь.

І вось у гэтым самым часе і са мною было «нядобра», але зноў ня я, але цывільныя ўлады зыйшлі з глуздоў і выселілі мяне з Вільні. Пасьля розных пэрыпэтыяў я вярнуўся ў Манджурыю 2. V. 1939 г. Там у нядоўгім часе я атрымаў ліст ад а. Ал. Мікайле: ён ужо зноў паправіўся і паведаміў мяне, што жыве недалёка ад Вільні пры нейкім (забыўся я) жаночым кляштары, што яму там добра паводзіцца і што ён здаволены . . . Мне трэба было уцешыцца з лісту, але я, чытаючы «між радкоў», зразумеў, што здароўе майго прыяцеля яшчэ ня вельмі моцнае . . .

Тады скора пачалася вайна і я страціў кантакт з Эўропай і ўжо больш аб а. Мікайле нічога ня мог даведацца: быццам ужо ня жыве? . . А шкада чалавека!

# 10-цігодзьдзе Беларускае Парахвіі ў Чыкаго

Беларуская эміграцыя пасьля 2 Сусьв. вайны, як толькі асела ў Чыкаго, дык пачала рабіць стараньні — заснаваць сваю сьвятыню і парахвію. Далучылася некалькі асобаў із старое эміграцыі. Гэта было неабходна так з боку рэлігійнага, як і нацыянальнага, бо нашыя праваслаўныя засялялі расейскія цэрквы і парахвіі, а каталікі — польскія, і першыя сталі «рускае веры», а другія — «польскае веры».



У нас на Беларусі, ня гледзячы на стараньні рускага і польскага духавенства — пасеяць нязгоду між праваслаўнымі і каталікамі, аднак ня вельмі адчувалася злосьць або ненавісьць між суседзямі: доказам гэтага было ўзаемнае кумоўства, сватаньне і жанімства. Дык вось паўстала ў нас думка будаваць супольную сьвятыню, каб у яе маглі прыходзіць тыя і гэтыя. Тут спрыяла яшчэ і тое, што недалёка ад Чыкаго ёсьць чэскі манастыр Бэнэдыктынцаў у Лейле, дзе ў той час былі сьвятары — манахі-беларусы — айцы: Язэп Рэшэць, Ян Тарасэвіч і Ўладзімер Тарасэвіч, а такжа а. Гапановіч — быўшы праваслаўны архімандрыт. Да таго аббат айцоў Бэнэдыктынцаў, чэх Амброзы Ондрак надта прыхільна да гэтага адносіўся (дай Божа яму неба!) і памагаў маральна і матар'яльна.

Гэтаму аднак праекту-думцы ня суджана было зьдзейсьніцца: няпрошаныя апякуны беларусаў даканалі свайго, пасеяўшы нязгоду, разьбілі еднасьць, якая магла-б сцэмантаваць супольная сьвятыня. Ведама, што гэта сталася не на карысьць беларусаў і Царквы.

Тады беларускае грамадзтва, вернае думцы рэлігійнае еднасьці абодвых абрадаў, не апусьціла рук, але яшчэ больш энэргічна рабіла стараньні, каб здабыць сваю сьвятыню, але ў іншы адменны спосаб: каталікі-лаціньнікі далучыліся да ўсходняга абраду.

Нашыя стараньні аб сьвятыню зьдзейсьніліся: дзякуючы дапамозе ўжо памёршых кардыналаў Стрыча і Мэера (дай Божа ім неба!), ёсьць ужо ў Чыкаго прыгожая беларуская царква, якая была 2 ліпеня 1961 году пасьвячана нашым беларускім япіскапам Чэславам Сіповічам.

*

23 траўня сёлета адсьвяткавана было ўрачыста 10 гадоў існаваньня парахвіі. Парахвія паўстала, калі яшчэ ня было свае царквы. Багаслужба адбывалася ў нядзелі і сьвяткі ў капліцы манашак Юзэфінак у Чыкаго.

Юбілейную Божую Службу правіў спэцыяльна прыбыўшы з Рыму япіскап Ч. Сіповіч у саслужэньні з архімандрытам Е. Дзянісавым (па нац. казак) і айца Янкі Тарасэвіча, ў прысутнасьці Аббата айцоў Бэнэдыктынцаў і другіх сьвятароў. Царква была перапоўнена беларусамі і амэрыканцамі, пераважна славянскага паходжаньня.




Падчас Літургіі пяялі беларусы па славянску, а амэрыканцы, якія належаць да нашае парахвіі, па ангельску. Лісты Апосталаў чыталіся па беларуску і па ангельску. Аббат Бэнэдыктынцаў айцец Д. В. Куцэра ў сваёй прамове нарысаваў гісторыю парахвіі і высказаў свае добрыя пажаданьні.

Прамова Яго Дастойнасьці Япіскапа Чэслава Сіповіча, як у Царкве, так і падчас абеду, была на высокім узроўні, рэлігійнага і патрыятычнага зьместу. Пачынаючы мову, Япіскап моцным выразным голасам сказаў: «Я — беларус, беларускі япіскап, Апостальскі Візытатар беларусаў каталікоў».

Падчас абеду Яго Дастойнасьць прамаўляў сперша па беларуску, а пасьля па ангельску, бо нямала было амэрыканцаў: ім прапанаваў бліжэй пазнаёміцца з нашаю глыбокаю культураю. Эўрапэйсія народы, як французы, італьянцы, немцы і іншыя, зь вялікаю цікавасьцю падзіўляюць і пішуць кніжкі аб беларусах і аб іх культуры.

У праграму абеду ўваходзілі песьні хораў беларускага і амэрыканскага, выступы сьпявачак пад акампаньямант гітары, а такжа беларускія народныя танцы. Абед закончаны малітваю і багаславенствам Япіскапа. Пасьля госьці жадалі бліжэй пазнаёміцца і пагутарыць з Уладыкай.

Я...

*

## УВАГА І ПАПРАЎКА

Паважаны Айцец Рэдактар!

У № 2 «Божым Шляхам» — Сакавік-Красавік — закралася памылка: у карэспандэнцыі з Чыкаго зьмешчана — быццам на гадавым сходзе Згуртаваньня Беларусаў штату Ільлінойс пастаўлена, паміж іншым, пра сьвяткаваньне 10-х угодкаў Беларускай Катал. Парахвіі Ўсходняга Абраду.

Такое пастановы ня было і не магло быць з тае прычыны, што Згуртаваньне ня ёсьць царкоўнаю ці рэлігійнаю арганізацыяй. Сябрамі Згуртаваньня ўсьць і такія, што не належаць да ўспомненае парахвіі.

Ветліва прашу зьмясьціць гэта ў Вашым часапісе «Божым Шляхам».

З пашанаю —

Сябра Згуртаваньня

# З царкоўнага жыцьця

НОВАЯ ЭНЦЫКЛІКА — «МЕСЯЦ МАЙ». Павал VI ў ёй гаворыць аб сваіх найбольшых турботах:

1) Найперш аб Саборы, які трэба закончыць. Чакаюць разьвязаньня найбольш важныя справы: адносіны Царквы да сьвету — да цяперашняга грамадзтва, справа злучэньня Цэркваў, справа канцэпцыі-пачацьця, т. наз. «пігулкі», справа Калегіі ў Царкве — «Сэнату» і шмат іншых.

2) Другая справа, якая датычыць усяго сьвету — гэта супакой — мір на ўсім сьвеце, каб не дапусьціць да сусьветнае катастрофы нуклеарнай вайны.

У справе міру Папа прамаўляе на публічных аўдыенцыях, такжа ў казаньнях падчас сьяткоў. Папа гутарыць аб гэтым з прадстаўнікамі народаў, як Нэньні — лідар сацыялістаў Італіі, як Вільсон — прэмьер Англіі і інш. І ў гэтай Энцыкліцы «Месяц Май» Павал VI зьвертаецца да ўсяго сьвету, каб прылажылі свае стараньні людзі добрае волі, каб веручыя ўлажылі ў гэта свае гарачыя малітвы, бо мір ёсьць спэцыяльны Дар Божы для сьвету, за які — як за штодзённы хлеб — трэба ўсьцяж маліцца.

Папа выступае з гарачым заклікам, як найвышэйшы Пастыр, і кажа: «Мы мусім выказаць свой неспакой і боязь, калі бачым розныя зьявы, якія абяртаюцца ў крывавы канфлікт. Мы заклінаем тых людзей, на якіх ляжыць адказнасьць за грамадзкія справы, каб не аставаліся глухімі на голас чалавецтва, якое жадае міру».

«Эта дзеля таго, — кажа Папа, — што мір ёсьць ня толькі з людзкога стараньня, але такжа і больш дарам Бога. Мір зыходзіць з неба і запануе між людзьмі, калі мы заслужым, каб яго нам даў Усёмагутны Бог, Які трымае ў руках людзкія сэрцы, а такжа шчасьце і прышласьць народаў. Дык будземо шукаць міру малітваю, як найвышэйшага дабра, просячы вытрывала і з увагаю, як гэта заўсёды тварыла Царква ад самага пачатку, і асабліва будземо прыбягаць да апекі Дзевы Марыі, Княгіні супакою».

Папа кажа, што памылкі людзей вельмі цяжкія і кладуцца на вагу Божае справядлівасьці і выклікаюць кару, але мы ведаем, што Гасподзь ёсьць «Айцом міласэрдзя і Ён — Бог усякае ўцехі», як кажа Сьв. Павал у лісьце да карынтыянаў (II, 1, 3).

А прытым Бог даў Дзеве Марыі ласку пасрэдніцтва ў малітве: Яна ведае аб нашых труднасьцях, Яна спачувае беднаму народу, як спачувала Хрысту на Галгофе. Марыя акажа помач Сьвятой Царкве і гэтаму сьвету, каб мы толькі не забывалі маліцца і папраўляцца ў пакуце. А Бог, які пануе над вятрамі і бурамі, супакоіць буру людзкіх сэрцаў...

*

ВАТЫКАН: Прэса ўсяго сьвету піша, што папа Павал VI наведае Польшчу на 1000-годзьдзе хросту Польшчы (у 966 г.), але толькі ў характары пабожнага пілігрыма і толькі ў Чанстахову. Аднак ня ведама, як да гэтага паставіцца камуністычная пальская ўлада.

Другая пілігрымка папы мае быць у Фатіму (Партугалія): там будзе памятка 50 гадоў ад даты аб'яўленьня Божае Маці (1917—1967) дня 13. V.

*

БЛІЗКА ВАТЫКАНУ, ў сялібе аа. Езуітаў адбыліся 22. V. выбары новага *Генэрала:* выбраны а. Пётр Аррупэ, 57 г., баск з Гішпаніі. Гэта ўжо 27-мы генэрал, наступнік Сьв. Ігната Ляёлі. Спачатку студыяваў мэдыцыну, а пасьля ўступіў у Закон Езуітаў. Апошнія 18 гадоў працаваў на місіі ў Японіі і 7 гадоў быў там правінцыялам. Перажыў у Японіі час вайны і быў блізка Гірашымы, калі амэрыканцы скінулі на яе атамную бомбу. Як лекар прыймаў удзел у ратунку няшчасных, якія мелі паразу ў катастрофе ад бомбы. (Там згінула 200.000 людзей).

Генэрал у Езуітаў выбіраецца на ўсё жыцьцё. Ёсьць аднак погаласкі, што цяперашняя капітула агранічыць гэты час, на падабенства іншых Законаў. Усіх Езуітаў на сьвеце 36.000.

Павал VI ў прамове да айцоў, сабраных на Капітулу, вызначыў ясную мэту для далейшай дзейнасьці Закону — змаганьне з атэізмам.

*

«ШТО ДУМАЮЦЬ ЕЗУІТЫ?»

Гэтым найбольш цікавіцца і найлепш ведае Масква, бо аб'явіла праз радыё, што новы генэрал Пётр Аррупэ мае прэтэнсію стаць новым сьвятым Ігнатам. А генэрал — на сабраньні журналістаў — на гэта Маскве адказаў, што яму тое лішне высокае... З усяго відаць, як атэісты судзяць езуітаў: яны баяцца, каб езуіты ня былі перашкодай у сусьветнай рэвалюцыі, тымбольш, што папа Павал VI паставіў езуітам задачу — змаганьне з атэізмам.

«Так, — сказаў новы генэрал — езуіты павінны зьвярнуцца тварам да атэізму і матэр'ялізму, які пагражае як навала ўсяму сьвету...»

Кажа, што езуіты не жадаюць ніякай агрэсіі, ні рэлігійнай вайны, але імкнуцца ўвайсьці ў «дыялёг» з людзьмі, якія адыйшлі ад Бога — з

далікатнасьцяй і разуменьнем, бо вера ёсьць Божым дарам: Дыялёг трэба весьці ў галіне навукі, філязофіі і ў адносінах сацыяльных.

І нельга забывацца таго, што вызначыў езуітам сам сьвяты Ігнат: каб практыкавалі «контэмпляцыю ў дзейнасьці». Значыць, трэба паглыбляць свой дух і несьці гэта да людзей.

Калі журналісты пыталіся генэрала, што ён думае аб памёршым езуіце Тэйльгард дэ Шардэн, генэрал адказаў: а. Шардэн быў вучоны, якога кніжкі ведамы на ўсім сьвеце. Але ягоныя погляды ня былі цалкам устаноўлены: ён іх усьцяж пераглядаў і папраўляў. Дзеля таго яго кніжак нельга было адразу друкаваць. Прытым ён сваёй інтуіцыяй апераджаў свой век, але ня быў ані вучоным філязофам, ні тэалёгам і з гэтага трэба ўмець ацэніваць ягоныя погляды. Шардэн палажыў вялікія стараньні, каб пагадзіць навуку з рэлігіяй, аднак ня трэба сумлявацца, што быў добрым веручым і манахам. Ісуса Хрыста ён — за сьвятым Ап. Паўлам — ставіў цэнтрам усяго сьвету.

*

КАЛЮМБІЯ: Ненармальнае палажэньне ў Паўдзённай Амэрыцы асабліва яскрава выражаецца ў Калюмбіі: прырода багатая і можна жыць як у раі, але грамадзкія адносіны такія кульгавыя, што ўсьцяж выклікаюць нездаваленьне, хваляваньне і нават бунты. Адны захопліваюць зямлю і багацьце, а другім няма чаго есьці: з гэтуль цяга да камунізму, які ў рэзультаце давядзе да поўнага голаду і няволі. Магчымы ратунак толькі ў справядлівых рэформах, але «вялікія рыбы» да гэтага не дапускаюць — уканцы на сваю згубу!

Япіскапы апэлююць да розуму і сэрца, аднак гэта «голас, што гукае ў пустыні».

«Усе мы павінны зрэвідаваць сваё прыватнае і публічнае жыцьцё ў сьвятле Эванэліі і жыць паводле нашае хрысьціянскае годнасьці. Нам недастаткова практыкаваць любоў, але найперш трэба тварыць справядлівасьць — паўсюдна». (Адозва япіскапаў).

*

ГІШПАНІЯ: «Новы плян грамадзкага апосталяту» — так называецца жывы ўзрух духавенства да рэлігійнага адраджэньня ў Гішпаніі. Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на клясу работнікаў, якія забываюцца аб Богу, шукаючы хлеба. Також на клясу людзей занядбаных і бяднейшых.

Адраджэньне павінна пачынацца ад самога духавенства: трэба ўводзіць у духоўных сэмінарыях спэцыяльныя курсы грамадзкіх і сацыяльных навук і дбаць пра далейшае разьвіцьцё духавенства. Нельга агранічыцца тым, каб чакаць на людзей у закрыстыі, але трэба да людзей ісьці і шукаць іх! Такі плян дзейнасьці падаў Хрыстос сваім Апосталам.

*

ГАЛЯНДЫЯ: Вялікае зьдзіўленьне выклікала пастанова сацыялістаў паставіць у кандыдаты на прэзэса М. Танс'а — каталіка! Даўней каталіком было забаронена належыць да партыі сацыялістаў, аднак па вайне пайшоў курс больш лібэральны і Царква ўжо ня перашкаджае ў гэтым, бо і партыя ўжо не змагаецца з Царквою.

*

АРМЭНІЯ: 24—25-га красавіка армянцы абходзілі 50-годзьдзе разьні ў Турцыі. Тады з 1.800.000 армянскага народу туркі выгналі трэцьцю частку далоў, блізка гэтулькі ўцякло з Турцыі, а рэшту туркі даслоўна выразалі! Ім быў дадзены выбар: або іслям, або сьмерць! Згінула больш 2 тысяч сьвятароў з вышэйшым духавенствам, зьнішчана 2000 цэркваў і капліцаў і 200 кляштараў.

Рэлігія армянцаў называецца «грэгорыянская»: яны монофізыты як і этыёпы і маюць свайго патрыярха (Вазген І-ы). Каталікоў армянцаў 150 тысяч: яны также маюць патрыярха (Батаніян) — жыве ў Бэйруце ў Лібане. Маюць свой асобны абрад — «армянскі».

*

ФРАНЦЫЯ: Пратэстанская Царква ў Францыі («рэфармаваная») на Сынодзе пастанавіла — значнай перавагай галасоў — дапусьціць жанчын да сьвятарства. Дасюль доўга хісталіся і толькі адна жанчына была пасьвячана ў пастыры, дык толькі «на пробу», а нарэшце зьнялі ўсякае аграніччэньне.

Наагул на 168 зарганізаваных пратэстанскіх Цэркваў 48 згадзіліся дапусьціць жанчын да сьвятарства, 90 не дапускаюць, а рэшта сумневаецца.

*

ШВЭЦЫЯ: Край пратэстанскі: царкоўная ўлада мусіць падлягаць (нават у духоўных справах) сьвецкаму ўраду. Дзеля таго, што ўрад часта трапляе ў рукі сацыялістаў, а там верхаводзяць атэісты, дык і царква трапляе пад іх уладу... Дык вось цяпер пратэстанты праектуюць адарваць Царкву ад улады сьвецкай.

Паўстала яшчэ квэстыя пратэстанскага кляштару: ёсьць ужо кандыдаты. Аднак япіскапы (там прат. «япіскапальныя») баяцца, каб гэты кляштар не перайшоў пасьля ў каталіцтва і не даюць дазволу на арганізацыю.

ФІЛІПІНЫ: Абходзілі сёлета 400 год ад хросту краю; гэта адзіны край на Далёкім Усходзе пераважна каталіцкі, ёсьць нязначны працэнт пратэстантаў і каля 10-ці пр. паганаў. Каталікоў кля 20 мільёнаў.

Філіпіны — 7,100 абтокаў — адкрытыя былі праз Магельляна ў 1521 г. і тады на востраве Цэбу кароль Гумабон з сям'ёй і 800 жыхароў прынялі хрост. Але ў 1565 г. прыбылі законьнікі аўгустыянцы і пачаўся хрост у ва ўсіх Філіпінах і дзеля таго сьвяткавалася 400 год сёлета Япіскапы (50) выдалі супольны ліст да народу Філіпін, у якім расказалі аб гісторыі каталіцтва ў краі.

Уладалі Філіпінамі да 1898 г. гішпанцы, тады захапілі іх амэрыканцы; у 1943 перамаглі японцы, у 1945 ізноў заўладалі амэрыканцы; а ў 1946 Філіпіны абвесьцілі незалежнасьць. Інтрыгі камуністаў ня мелі посьпеху.

У сталіцы Маніласьля ёсьць аддаўна каталіцкі унівэрсытэт. Вялікай бядою для Царквы ёсьць брак духавенства.

Вельмі прасілі папу прыехаць на сьвяткаваньне — і ўрад, і духавенства, і народ, — але папа адмовіўся, бо кажа — надта заняты прыгатаваньнем да IV Сэсіі Сабору; прыслаў свайго дэлегата кард. Антоніутті, які ўрачыста цэлебраваў з філіпінскім кардыналам Сантос і з усімі япіскапамі.

На памятку 400 год Юбілею пасьвячаны і заложаны І-шы камень пад будову сэмінарыі для Загранічных Місіяў: кардынал-легат даканаў пасьвячэньня.

✳

БРАЗЫЛІЯ: У найбольш індустрыяльным раёне Сао Паўлё і Сьв. Андрэя вялікае безпрацоўе, асабліва ў фабрыках аўтамабіляў: да 50% работнікаў астаецца без працы. Дзеля таго, што работнікі ня маюць абязпячэньня, дык цэлыя сем'і астаюцца бяз ніякіх сродкаў да жыцьця.

Япіскап Дом Ерге Маркос апублікаваў ліст да прэзыдэнта рэспублікі Кастэлё Бранко аб распачлівым палажэньні народу: пачаўся жудсны голад і трэба зара ратунку!

«Спадар Прэзыдэнт, піша япіскап, у Бразыліі аб Вас ведаюць, што Вы вельмі любіце сваю сям'ю: калі-б адзін з вашых сыноў патрабаваў пільнага ратунку, а Вы не маглі-б яму памагчы ў самым малым, дык што-бы Вы тагды пачувалі як бацька? . .

✳

ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ: Царква Англіканская, да якой належыць 27 мільёнаў людзей і Царква Мэтодыстаў з 1,100,000 вернікаў пастанаўляюць злучыцца. Мэтодысты пад кіраветвам Джона Вэслея адарваліся ад Англіканскае Царквы ў XVIII ст. Між імі існуюць немалыя розьніцы, аднак маюць жаданьне гэтыя розьніцы пакрысе згладзіць і поўнае злучэньне ўладзіць у 1968 годзе. Архіярэй англіканаў Др. Рамсэй прывітаў гэтае жаданьне згоды і казаў: «Тое, што мы даканалі сяньня ёсць адным крокам наперад у тым, каб узнавіць лучнасьць усіх хрысьціян».

Також Царква Прэзьбітэрыян мае намер злучыцца з Конгрэгацыяналістамі ў Англіі, Шкоцыі і Валліі: яны ўзаемна прызналі, што розьніцы ў іх не такія ўжо важныя, каб не дайсьці да згоды. І также Баптысты загаварылі ў Англіі аб згодзе ўсіх хрысьціян.

✳

ЗЛУЧ. ШТАТЫ АМЭРЫКІ: 29, V, 1965 у гор. Утыка ў касьцеле Сьв. Тройцы япіскап Часлаў Сіповіч, Генэрал аа. Марыянаў, даў сьвятарства дыякану Хведару Палчынскаму ў усходнім абрадзе. Малады сьвятар закончыў свае студыі — 9 гадоў — у Вашынгтонскім Каталіцкім унівэрсытэце. Уступіў у Закон аа. Марыянаў у 1956 г.

✳

ТУРЦЫЯ: Урад пагражае Патрыярху: хоча яго выселіць! Кажуць, што быццам Патрыярх мяшаецца ў палітыку і цягне за грэкаў. Хочуць перарваць зносіны Патрыярха з заграніцаю, каб аставаўся толькі япіскапам у Турцыі. Дамагаюцца значных падаткаў і г. д. Заіснавала блізкая пагроза, што прымусяць пакінуць адвечную сталіцу Праваслаўнае Царквы Канстантынопаль... Аднак пасыпаліся пратэсты з усяго сьвету — ад Каталіцкае Царквы, ад Пратэстанскіх і ад розных сьвецкіх уладаў і дзяржаваў. Турцыя крыху збаялася.

✳

ЛЕТУВА: Сьвятар катал. у Таўрогах засуджаны на 2 гады турмы за тое, што даў Сьв. Камунію (Прычасьце) 10-ці дзецям.

✳

## ВЫСТАЎКА НА ТЭМУ ПРЫЗВАНЬНЯЎ — У ЛЁНДАНЕ

Ад 4 да 11 ліпня адбывалася вялічэзная в ы с т а ў к а ў 150 павілёнах: абразоў, фатаграфіяў, экспанатаў, кніжак, брашураў, часапісаў, лятучак — усяго, што датычыць працы духоўнай, законнай і місыйнай у Лёнданскай Дыэцэзіі. Також адпраўлялася набажэнства ў найбольшым крытым стадыёне, а на пачатку была Літургія лацінская ў концэлебрацыі 12-ці сьвятароў. У спэцыяльнай капліцы што гадзіны адпраўлялася Сьв. Імша.

Былі также лекцыі і фільмовыя паказы.

Выстаўку наведала больш 150-ці тысяч людзей, якія даведаліся аб дзейнасьці Каталіцкае Царквы ў Лёндане, у Англіі, Валіі і Шкоцыі, а также на далёкіх Місіях.

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Англія

## ЮБІЛЕЙ СЯСЬЦЁР АСУМПЦЫЯЛІСТАК

Закладзеныя 100 год таму назад, Асумпцыяністкі сьвяткавалі свой Юбілей. Іх галоўнай мэтай была апостальская дзейнасьць на Блізкім



*Літургія ў Сясьцёр Асумпцыяністак у Лёндане 22 траўня*

і Сярэднім Усходзе: яны хутка праніклі ў Сырыю, Лібан, Турцыю, Грэцыю і Баўгарыю. Каб падчыркнуць сувязь з Усходам, сёстры А. ў Лёндане зажадалі мець на свой Юбілей Сьв. Літургію ў бізантыйскім абрадзе: а. А. Надсон адслужыў у іхняй царкве 22, V. Трэба сказаць, што сёстры рыхтаваліся да ўрачыстасьці вельмі старанна. На асаблівую ўвагу заслужыў прыгожы вялікі іканастас, збудованы бацькамі вучаніцаў школы, якую сёстры вядуць пры сваім манастыры. Іконы малёваны сястрой-мастачкай паводля ўзору з царквы ў Marian House. Прысутных на Літургіі людзей не магла памясьціць вялікая царква. Тут былі сьвятары, манашкі розных законаў, вучаніцы і іх бацькі і шмат вернікаў — даслоўна з усёй Англіі. А сярод некаталікоў — пастары англіканскіх і пратэстанскіх цэркваў. Прычасьнікаў было больш 200.

Вельмі прыгожа сьпяваў хор школы Сьв. Кірыла, за што атрымаў шмат пахвалаў. Наагул для вучняў школы Сьв. Кірыла гэта быў вялікі дзень: хлопцы спалучылі карыснае з прыемным — правялі дзень у аднэй з найбольш маляўнічых мясцовасьцяў у аколіцах Лёндану, недалёка Грынвіч.

## ДАКЛАД У МЭТАДЫСТАЎ

Арганізацыя маладых мэтадыстаў у гор. Гатфіэльд запрасіла а. Надсона 16, VI зрабіць даклад аб Усходнім Хрысьціянстве. Даклад выклікаў вялікае зацікаўленьне. Пытаньні пасьля дакладу былі самыя разнаякія: аб Каталіцкай і Праваслаўнай Царкве, аб літургіі, аб Найсьв. Багародзіцы і Сьвятых, аб іконах, абрадах і інш. Былі таксама пытаньні аб Беларусі, аб рэлігіі ў Сав. Саюзе. Вечар прайшоў у вельмі цёплай і прыяцельскай атмасфэры. — Вось яшчэ адзін доказ для хрысьціянскіх веравызнаньняў — зьбліжыцца і лепш пазнаць адны другіх.

## З'ЕЗД ЗБВБ

У суботу 26. VI. адбыўся ў Лёндане 19-ты гадавы З'езд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Старшынёй З'езду быў а. А. Надсон, сакратарамі — Сп-ры А. Лашук і Я. Сяўковіч. З справаздачы можна было бачыць, што арганізацыя яшчэ больш узмацнела матар'яльна. Бел. дамы ў Лёндане, Братфардзе і Манчэстары сталіся нацыянальнымі асяродкамі ня толькі для сяброў ЗБВБ, але для ўсіх Беларусаў. На асаблівую ўвагу заслужыла справаздача Дапамаговага Фонду, які за год выдаў дапамогу грамадзкім установам і прыватным адзінкам на звыш 250 фунтаў.

Новая Галоўная Управа была выбрана ў наступным складзе: сп. Ул. Бутрымовіч — Старшыня, а. Л. Гарошка і сп. Я. Калбаса — Заступнікі Старшыні, сп. А. Лашук — Сакратар, сп. П. Асіповіч — Скарбнік, сп-ры П. Навара і Ю. Якімец — Сябры.

Наступнага дня, ў нядзелю 27. VI. сьвятар БАПЦ а. Я. Абабурка адслужыў Сьв. Літургію ў салі Беларускага Дому. Сьпяваў хор школы Сьв. Кірыла.

## З ЖЫЦЬЦЯ ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛА

23-га чэрвеня вечарам школа Сьв. Кірыла ладзіла традыцыйны Купальскі вечар. Як на заказ, пагода аказалася добрая — рэдкая зьява ў Англіі, асабліва ў гэтым годзе. Яшчэ да змроку хлопцы parаскладалі малыя агні ў школьным садзе і пачалі рыхтаваць розныя смачныя стравы, стараючыся паказаць — адзін перад другім — хто зь іх лепшы кухар... Аднак сапраўднае сьвята пачалося, калі зайшло сонца і загарэлася вялікае вогнішча. Вясёлыя сьпевы і скокі цераз агонь цягнуліся да познай ночы.

*Заканчэньне навучальнага году.* У суботу 10 ліпеня дбылося заканч. навучальнага году ў

Школе Сьв. Кірыла, ў новай школьнай залі, большай і прыгажэйшай, чым папярэдняя, хоць яшчэ ня зусім закончанай.

Адчыніў урачыстасьць а. А. Надсон. Ён падсумаваў у прамове дасягненьні школы за мінулы год і ўспомніў аб цяжкасьцях і няўдачах. Да асягненьняў ён залічыў высокі навуковы ўзровень большасьці вучняў, як відаць з іхніх пасьведчаньняў, а таксама з нагародаў і стыпэндыяў. Ня меншыя посьпехі ёсьць і ў галіне спорту, дзе нашыя вучні здабылі рэкордавы лік залатых і сярэбраных мэдаляў (12) у ангельскіх школьных спаборніцтвах. Аб мастацкіх асягненьнях ня трэба было шмат казаць, бо хор і аркестра школы сталіся ўжо добра ведамымі. Найважнейшыя асягненьні ёсьць аднак у галіне беларускага ўзгадаваньня. Сяньня школа можа пахваліцца вучнямі, якія раней ня ведалі беларускай мовы, а цяпер ня толькі пачынаюць свабодна гаварыць па беларуску, але і чуюцца беларусамі. — Тут прамоўца сказаў некалькі слоў перасьцярогі да бацькоў, якія жадаюць пасылаць сыноў сюды, бо думаюць, што іхнія дзеці будуць мець лепшыя шансы здабыцьця добрай асьветы. Безумоўна, Школя робіць усё магчымае, каб стварыць вучням найлепшыя умовы да навукі, аднак яе галоўнай мэтай ёсьць узгадаваньне маладога пакаленьня на чужыне.

Пасьля а. Я. Гэрмановіч, кіраўнік школы, раздаў нагароды найлепшым вучням. А. Лошка атрымаў нагароду за найлепшую беларускую пісьмовую працу, Ф. Сенькоўскі — за найлыпшыя вынікі з беларускай мовы і літаратуры, М. Смаль — за найлепшыя агульныя поступы ў навуцы і паводзінах, а Э. Вальш — нагароду з музыкі.

Мастацкая частка была вельмі багатая: складалася з выступаў хору, аркестры і дэклямацыяў. Праграма хору склададалася з часткі сьвецкай і рэлігійнай. У гэтай апошняй на асаблівую ўвагу заслужылі старая белар. кантычка «О, мой Божа, веру Табе!» і гымн «О, всепетая Маці» на стары беларускі напеў.

Пасьля заканчэньня ўрачыстай часткі ўсіх беларусаў чакаў скромны пачастунак.

### Нямеччына

*Літургія ў Гальвэр.* У нядзелю 23, V — сьвята патронкі Беларусі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай — Мітр. Пратаерэй а. Ул. Салавей служыў урачыстую сьв. Літургію ў прыхадзкой царкве ў гор. Гальвэр (акруга Ругр). Царква была перапоўнена вернікамі, большасьць якіх першы раз бачыла Літургію каталіцкага ўсходняга абраду. Прыгожа сьпяваў хор Кёнігштайнскай сэмінарыі, які на заканчэньне засьпяваў «Магутны Божа».

### Францыя

*Літургія ў Вэрт-ле-Гранд.* У нядзелю 13, VI а. Леў Гарошка адслужыў сьв. Літургію ў царкве ў Вэрт-ле-Гранд. Гэта была першая Літургія беларускага сьвятара ў гэтай мясцовасьці і яна была добрай нагодай сабрацца ўсім, даволі шматлікім беларусам, якія жывуць у горадзе і ваколіцах.

---

# ФОНД РАЗБУДОВЫ

## ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ЛЁНДАНЕ

ГЭТЫМ ЗЬВЯРТАЕМСЯ ДА ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ З ГАРАЧАЙ ПРОСЬБАЙ ДАПАМАГЧЫ САБРАЦЬ ГРОШЫ НА РАЗБУДОВУ НАШАЙ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ Ў ЛЁНДАНЕ.

МАЕМО ЎЖО БОЛЬШ КАНДЫДАТАЎ ЧЫМ МЕСЦА, ДЗЕЛЯ ТАГО НЕАБХОДНА ПРЫСТУПІЦЬ ЧЫМ ХУТЧЭЙ ДА ПАБУДОВЫ НОВАГА ДОМУ.

ПАТРЭБА НАМ САБРАЦЬ 30.000 АНГ. ФУНТАЎ. АДПАВЕДНЫ ПЛЯЦ ДЛЯ ШКОЛЫ Ў НАС УЖО ЁСЬЦЬ.

БРАТЫ! ВЯЛІКАЯ МЭТА ПЕРАД НАМІ: ДАПАМАЖЭЦЕ!

Усе ахвяры просім прысылаць на адрас Кіраўніка школы:

**Rev. J. Hermanovič, Marian House, Holden Avenue , London. N. 12, England.**

*† ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ*

*Бп. тыт. Марыямітанскі*
*Апостальскі Візытатар Беларусаў*

*а. Леў Гарошка, Рэктар*

*а. Язэп Гэрмановіч*

*а. Аляксандар Надсон*

# Зь лістаў у рэдакцыю

АЎСТРАЛІЯ — МЭЛЬБУРН: Як ужо нідраз пісаў, паўтараю і цяпер, што выдаваны Вамі «Б. Ш.» чытаю з прыемнасьцю і цешуся, калі «даплывае» ён і да нас. (Ох, як доўга «плывуць у сяньняшнім такім хуткім часе!).

Падзеі рэлігійныя, асабліва справы хрысьціянскага паеднаньня, дый наагул усіх веручых у Бога людзей, як у супрацьвагу да бязбожнага камунізму, мяне, а лічу і бальшыню нас — найбольш цікавяць. Ад гэтага паеднаньня, ўважаю, залежыць далейшы лёс чалавека на зямлі. Таму ня дзіва, што толькі высілкаў разумныя людзі з розных бакоў скіроўваюць на гэтую справу. Толькі пытаньне, як і калі такое паеднаньне зрэалізуецца?

Назіраючы краіны амаль поўнасьцю каталіцкія, як Паўднёвая і Цэнтральная Амэрыка, як Гішпанія, Партугалія, Італія ды іншыя, мусім сьцвердзіць, што яны ёсьць прадстаўнікамі захадняй беднаты і цемнаты, таму і так пашыранага там камунізму. Каталіцтва там, на жаль, не аказалася сілай прагрэсу. Я асабіста, будучы ў Італіі, колькі разоў перад, у часе і пасьля вайны, пераканаўся аб павярхоўнасьці там каталіцтва, да формы толькі.

І таму так цешуся са зьменаў, якія унёс Пакойны Папа Ян XXIII і далей уносіць ягоны наступнік Павал VI. Цешуся і поўнасьцю падтрымліваю акцыю Ўсяленскага Патрыярха як і «Лідараў» іншых хрысьціянскіх Цэркваў. Баюся толькі, што меншыя людзі, як і рэальныя абставіны жыцьця, а такжа соткі-гадовыя традыцыі, нахілы, — будуць тармазіць акцыю паеднаньня. Веру аднак, што зрэалізуецца. Дай толькі, Божа, каб хутчэй і каб ня было запозна!

Пішучы аб гэтым, хочацца сказаць наступнае: — Праваслаўная Царква за час ад падзелу з Каталіцкай Царквою ня шмат зьмянілася. Ёй нават можна закінуць «адсталасьць». Але яна найменш гэтым адыйшла ад Апостальскай Царквы, таму не яна ёсьць Царквой «адлучаных братоў» . . .

З заўвагамі В. Жука — добрага майго калішняга сябры — (якая шкада, што мы так далёка ад сябе!) у «Б. Ш.» на «Князь і Лапаць» поўнасьцю згаджаюся. Калі йдзе пра назову — то і мы тут гутарылі на гэтую тэму. І спадзяёмся, што ў наступным выданьні павітаем гэтую кніжку пад іншым назовам. Таксама далучаюся да В. Жука, каб выдаць кніжку ў іншых мовах. Напэўна зацікавіліся-б шырэйшыя кругі.

Бачу рух на вуліцы і курэй пад вакном — цяпер лепей відаць праз вакно — з і м а ! Дрэвы голыя, толькі збоку лімончык, на якім дасьпяваюць лімоны і вечна зялёная ялінка, крыху прысланяюць віды з вакна. Затое ў бярозкі адсланілася белая кара, бо жоўтыя лісты ўжо паападалі. Зіма! — Ня ёсьць холадна, трава зялёная і нейкія кветачкі цьвітуць, але ўсё-ж сядзець холадна.

Цешуся, што ўрэшце напісаў гэты ліст: лягчэй будзе — толькі дзён мучыўся. — Прыйшоў кот, кліча да кухні. Трэба зара карміць і курэй, сабаку і 2 катоў. За паўгадзінкі будуць і дзеці. Як добра, што школа амаль «пад носам»- . . . Але часта ёсьць і прыемна, калі можна паганарыцца сваімі беларусамі . . .

Дык усяго найлепшага! Усім прывітаньні.

Шчыра Вам адданы *М. Н.*

# З беларускае прэсы:

SIAUBIT — Сяўбіт — 1965, Ліпень-Жнівень, № 45, Часапіс Каталіцка-Грамадзкі. Зьвяртае на сябе ўвагу артыкул *«Матэр'ялізм»* — недарэчнасьць і згубныя вынікі матэр'ялізму.

БЕЛАРУС: № 99, Чэрвень, 1965, Нью Ёрк-Торонто. Цікавае там пісьмо з Аргентыны аб жыцьці Беларусаў.

БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА: Год выд. 6, 1965, № 7. Грам.-Пал. і Літ.-Маст. Часапіс.

ВЕХІ: № 13, Чэрвень, 1965, — Ворган Бел. Паст. Думкі.

АБ'ЕДНАНЬНЕ: № 3 (105), Чэрвень, 18 год выд.

НАВІНЫ З БЕЛАРУСІ: № 11 (34), 15, VI, 65. Нью Ёрк. Год выд. III.

СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ: Год выд. 32. № 1 (80), 1965. «Прынцып Другое Мілі» — артыкул, які прымушае чытача задумацца над лёсам сваім, лёсам Бацькаўшчыны і ўсяго сьвету.

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА: БССР, № 53, 2 Ліпеня 65 г. Год выд. 34.

Вельмі паважны арт. Сц. Александровіча *«Францішак, Скарынін сын з Полацка»*. Цікава, што гэты орган, а такжа «МАЛАДОСЬЦЬ» (№ 6, Чэрвень 1965 г.) падалі правідлова імя Скарыны *«Францішак»* і нават ня ўспамінаюць імяні «Георгій», якое перш у Саветах давалася Скарыне.

У гэтым артыкуле «Літ. і Маст.» піша з нагоды 475-годзьдзя нараджэньня Францішка Ска-

рыны: «Мы стаім на парозе вялікай і слаўнай даты: 6 жніўня 1967 г. спаўняюцца чатыры з паловаю вякі беларускага кнігадрукаваньня. Гісторыя вострай і зацятай нацыянальна-вызваленчай барадзьбы бел. нар. за сваё існаваньне, за сваю мову і культуру... народ пранёс праз усе цяжкія выпрабаваньн і ліхалецьце чужаземнага ўціску кнігу — самы дарагі скарб свайго духоўнага жыцьця».

У часапісе «Маладосьць» В. Чамярыцкі піша: «Дзейнасьць Францыска Скарыны склала цэлую эпоху ў культ. жыцьці бел. народу і садзейнічала яго сацыяльнаму і нацыянальнаму абуджэньню. Яна зрабіла вялікі ўплыў на культурнае разьвіцьцё нашых братоў-суседзяў, рускіх і ўкраінцаў... Такой гіганцкай асобай, як Францыск Скарына, мог-бы ганарыцца кожны народ. З дзейнасьцю вялікага палачаніна зьвязана далейшае разьвіцьцё кнігадрукаваньня на Беларусі і ўзьнікненьне яго ў Расіі, на Украіне».

Толькі надарэмна В. Ч. робіць Скарыну атэістам, што імкнуўся «вырвацца з рэлігійнага дурману», а тымчасам Скарына друкаваў кнігі рэлігійнага зьместу з прыгожымі малюнкамі-гравюрамі і надзвычай прыгожым і арыгінальным шрыфтам. А ў 1532-1535 быў асабістым сакратаром і прыдворным лекарам віленскага біскупа. («Маладосьць», бач. 124).



# Прасьлед рэлігіі ў Беларусі

«Работа атэістага нялёгкая». (Піша «Настаўніцкая Газэта» 12, VI, 65). «Трэба адкрыта сказаць, што ня кожнаму спадарожнічае ўдача. Бітва за чалавечыя душы не заўсёды прыносіць толькі радасьць, задаваленьне. Бываюць і засмучэньні і няпрыемнасьці. Антырэлігійная прапаганда сярод сельскага насельніцтва — участак работы надзвычай цяжкі й складаны.

«...Гібкая тактыка атэістычнай прапаганды дазваляе нашым агітатарам узьдзейнічаць на розум і душы веруючых... Напрыклад, настаўнікі — лектары праводзяць так званую гадзіну ў сям'і веруючых бацькоў. У пэўны час настаўнік прыходзіць дамоў да свайго вучня, каб пагутарыць аб школьных справах. Гутарка пачынаецца, здавалася-б, зусім проста, звычайна. Але яна прадумана да дробязяў і няпрыкметна звездзіцца да пэўнай мэты...» (А Самаль, дырэктар Градзіеўскай школы, старшыня савету атэістых, Ашмянскі раён).



Бачым, колькі ўкладаюць ворагі рэлігіі высілку, натугі і поту, колькі падступу, падману, падхалімства. То дзеюць насьмешкамі, страхам, пагрозай і ўсе сродкі агітацыі ў іх руках, — аднак ні сама прапаганда, ні школа з націскам на бацькоў не далі-б рэзультату, каб ня было прымусу і тэрору.

Як Хрыстос на крыжы быў голы — Ён Цар у цярновай кароне — Яго рукі прыбітыя цьвікамі — Яму, як Чалавеку, Бог Айцец не памагае — Яго вучні паўцякалі — народ адступіў, а вучоныя і архірэі выдалі чужынцам — завешаны між небам і зямлёю, публічна, на вяршыне гары — так *Хрыстос* паміраe... і так *перамагае!*

А мы бачым і чуем, як ворагі рэлігіі, маючы ўсё сродкі да барадзьбы з рэлігіяй — войска, школы, грошы, ўрад — ўсё-ж такі прызнаюцца, пасьля паўвеку барадзьбы, што «ўчастак работы надзвычай цяжкі...»

О, каб Царква ўкладала гэтулькі працы для збаўленьня людзей, як тыя працуюць на згубу, дык сьвет быў-бы ўвесь ахрышчаны і было-б «адно стада і адін Пастыр»!



У сваіх непаводзінах атэісты даходзяць і да роспачы і нават часам... да розуму. Прызнаюцца: «Мусіць мы не так працуем?..»

Зьяўляюцца ў савецкіх газэтах пісьмы і артыкулы, ў якіх пачынаюць прызнавацца, што прымус дзеіць шкодна. А іншыя нават даходзяць, што і навука, на якую так напіраюць, ня можа выясьніць загадак і таямніцаў сьвету, як дасюль спадзяваліся — ані парадку ў сьвеце, ані законаў прыроды, ані пачатку існаваньня, ні пачатку жыцьця на зямлі, ні пачатку розуму ў чалавека...

І сафізм атэістаў, што «праца людзей давяла да розуму», не здаў эгзамену, бо мурашка мусела-б раней дайсьці да розуму як чалавек: яна працуе больш старанна і вытрывала...



Дзіўное зьявішча ў Саюзе — «веруючыя агітатары»: Здараюцца людзі, што днём чытаюць лекцыі супраць рэлігіі, а ноччу таёмна моляцца, ходзяць на набажэнствы, хрысьцяць дзяцей...

Так дзіўна вядзецца «бітва за чалавечыя душы»!

Прыйдзе час, што цяперашнія атэісты будуць узнаўляць зачыняныя цэрквы.

*Я. Савіцкі.*

# «І МАЕ ДУМКІ...»

Прайшоў ужо Вялікдзень. Мы жадалі ўзаемна «ХРЫСТОС УВАСКРОС!» — «Альлелюя!» На Каляды жадалі Вясёлых Сьвяткоў, а пасьля — Шчасьлівага Новага Году! А гады гэтыя лятуць як пчолы — шыбка: толькі замест мёду прыносяць нам нярэдка гарчыцу.

Звычай ж а д а ц ь ня ёсьць дрэнны. Толькі-ж, каб ня было тут аднаго ч а к а н ь н я! Мы павінны супрацоўнічаць з Богам, з сям'ёю, з бліжнімі і з усім грамадзтвам і цэлым сьветам.

Але само чаканьне можа нас давесьці да банкроцтва: можа стаць марнаваньнем часу і нашае сілы. Чалавек быў-бы падобны таму падарожнаму, які прыйшоўшы да рэчкі і хочучы перайсьці на другі бок, ч а к а ў... пакуль рэчка ўся пераплыве.

Апрача працы, нам трэба маліцца, шукаючы помачы ў Усёмагутнага Бога.

*

Да працы патрэбны р у к і. Мы называем — зручныя рукі, або ўмелыя, працавіты і таленавітыя рукі — гэта ўсё пазытыўныя рысы; але бываюць нязграбныя рукі, заграбушчыя і доўгія рукі — гэта рысы нэгатыўныя.

І ёсьць яшчэ рукі прыгожыя і брыдкія, няпрыемныя — гэта старана вонкавая. Гэта таксама мае сваю вартасьць: асабліва стараюцца ўтрымаць рукі ў вонкавай красе, а нават іх упрыгожыць, маладыя паненкі і дамы. Да гэтага служаць розныя пярсьцёнкі, брасалеткі, дый розныя аптэчныя прылады — так званая касмэтыка. Мы не асуджаем разумнай стараннасьці і апекі над рукамі, затое мусім асудзіць нядбайнасьць і «жалобу» пад пазногцямі. І мы згаджаемся з такой статыстыкай, якая ацэньвае культуру людзей колькасьцяй а л ь к а г о л ю на асобу і колькасьцяй м ы л а. Праўда, нельга асудзіць чалавека, які мусіць працаваць голымі рукамі ў спэцыяльнай рабоце, хоць ужо культура і навука здабываецца ў такіх фахах на спэцыяльныя рукавіцы, каб ня брудзіць рук і асьцерагчыся калецтва.

Затое м ы ц ь ц ё рук абавязвае ўсіх людзей і тут ужо нельга адгаварыцца, што «няма часу!», бо і эстэтыка-культура, і здароўе і ўзаемныя адносіны людзей гэтага вымагаюць.

Нельга прамінуць і той увагі, што лішняя фатыга і аздоба для рук ня толькі не карысная, а бывае сьмешная і шкодная, як фарбаваньне пазногцяў, асабліва на коляр яскрава-чырвоны. Наагул рукі лянівыя, распешчаныя, з доўгімі, тонкімі пальцамі і з выстаючымі пазногцямі, выклікаюць зьедлівую крытыку, насьмешкі і параўнаньні вельмі паніжаючыя.

Некаторыя людзі прывыкаюць г р ы з ь ц і пазногці: малышоў за гэта б'юць па руках; але што рабіць з дарослымі, упартымі і някультурнымі адзінкамі? Іншыя нат гэтым бравіруюць... Такіх трэба лучыць у адно таварыства з тымі, што калупаюць у носе, скрабуцца і кураць у забароненым месцы. — Але аб курэньні скажам у наступным нумары.

Нармальныя рукі працавітага чалавека могуць быць утрыманыя ў поўным парадку і часта сьведчаць аб здароўі фізычным і аб культуры чалавека, дый часта бываюць вельмі прыгожыя.

---

*Вінцук Адважны*

## ДВА БАРАНЫ

*Бараны паміж сабой*
*Пачалі свой грозны бой:*
*Быў малы чырвона-рыжы —*
*Хітры, хіжы,*
*Быў вялікі шэра-белы —*
*Вельмі сьмелы!*

*Перш нібыта строяць жарты,*
*Хто больш варты?*
*Што раз далей адыходзяць*
*І вачэй з сябе ня зводзяць:*
*Скокнуць шыбка на спатканьне —*
*На крывава прывітаньне —*
*Стукнуць — ажно пойдзе рэха! —*
*Аж людзям з таго пацеха...*

*Барджэй задам адступаць,*
*На сябе шпарчэй сьпяшаюць —*
*Толькі стук грыміць ганебны —*
*Глум галоваў непатрэбны.*
*Вось нарэшце рыжы зьлёг —*
*Болей біцца ён ня змог.*

*Белы доўга пасьля бою*
*Круціў буйнай галавою:*
*Добра лоб сабе нагрэў —*
*Аж здурнеў!*

. . . . . . . . . . . .

*Так паўвеку, год-за-годам,*
*Б'юцца рыжыя з народам.*
*Белы з рыжымі так б'ецца*
*І... ўсё ў дурнях астаецца...*

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

На «Б. Ш.»: Сп. Э. Ан-іч (Канада) — 10 $; Сп. Я. Ч. (Чыкаго) — 2 $; Сп-ня В. М. (Чыкаго) — 10 $; Сп. С. Д-а (Манчэстэр) — 1.0.0 £; Сп. М. В. (Манчэстэр) — 0.10.0 £; Сп. М-іч (Нью Ёрк) — 5 $; Сп. М. В. (Манч.) — 0.10.0 £; Сп. Э. Ц-скі (Францыя) — 20 н. фр.; Э. Я-іч (Францыя) — 15 н. фр.; Ул. К-н (Францыя) — 3.0.0 £; М. Н. (Аўстралія) — 2.7.9 £; Н-іус (Аўстралія) — 20.0.0 £; Каз. Ан. (Канада) — 10 $; С. Н-ук (Па., Амэрыка) — 5 £; М. П-іч (Саут Рывэр) — 3 $ і 2 $ на Фонд Разб. Школы; З. С. (Англія) — 10. 0. 0 £ на Фонд Разб. Школы; Г. Геу (Амэрыка) — 50 $ за кніжкі «Кн. і Л.».

Усім Дабрадзеям і Падпішчыкам — Вялікі Дзякуй!

---

## ЖАРТЫ

Савецкі дыплямат: — У вас 5 кандыдатаў на прэзыдэнта: ці дэ Голь будзе выбраны?

Француcкі дыплямат: — Гэтага нават найбольшая варажбітка у Парыжы ня ведае!

Савецкі: Вось бачыце: гэта вынік вашае капіталістычнае сыстэмы, што Вы нічога ня ведаеце.

Француcкі: — А у Вас як?

Савецкі: — О, у нас куды лепш! Мы ужо перад выбарамі ведаем, будзе выбраны наш назначаны кандыдат у нашых вольных выбарах...

⁕

Адвакат: — Што Вашэці сказаў даўжнік, як Вы пыталі у яго аддаць грошы?

Кліент: — Ён сказаў мне: «Ідзі к чорту!»

Адвакат: — А што Вы тады?

Кліент: — Я прышоў да Вас...

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

Хто чытае, а не плаціць —
Менш карысьці, а больш страціць:
Па смале так муха лезе,
Рак скрабецца па жалезе...

Доўг як горб — такая мука —
Зусім лішняя дакука,
А працэнт расьце табе,
Так як скула на гарбе.

«ШЛЯХАМ БОЖЫМ» — моцным, дужым —
Мы сваёй Айчыне служым. —
Трэ рэдактара здаволіць:
Няхай болей нас ня школіць —

З даўгоў выйсьці, як з уціску,
І прыслаць на «ШЛЯХ» падпіску!

---

## ЗЬМЕСТ:



Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.